# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"),

(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 31-32 (515-516) | Нядзеля, 14 жнівеня 1960 | ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# Амэрыка на шляху да сваёй гістарычнай місіі

Абедзьве амэрыканскія партыі — Дэмакратычная й Рэспубліканская звычайна йдуць да прэзыдэнцкіх выбараў із спэцыяльна з гэтай нагоды прынятымі палітычнымі праграмамі, якія забавязваюцца праводзіць у жыцьцё кажны з кадыдатаў на будучага прэзыдэнта. Дзеля таго, што сёлетнія выбары ў Амэрыцы, якія адбудуцца 8-га лістапада, прыпадаюць на пэрыяд асаблівай палітычнай актыўнасьці й завайстрэньня напружаньня між Захадам і Ўсходам, выбарная кампанія праходзіць галоўным чынам пад знакам вонкавае палітыкі, сьпіхаючы праблемы чыста нутраныя на задні плян.

Агульна ведама, што ідэялягічныя й палітычныя розьніцы між абедзьвюма амэрыканскімі партыямі часта заціраюцца, і тады іх розьніць фактычна толькі асоба кандыдата на будучага прэзыдэнта. Такая сытуацыя вытварылася якраз сёлета, калі за месца ў Белым Доме змагаюцца сэнатар Джон Ф. Кэнэды — ад партыі Дэмакратаў і цяперашні віцэпрэзыдэнт Рышард М. Ніксан — ад партыі Рэспубліканцаў. Дзеля таго, што абедзьве партыі высунулі амаль ідэнтычныя праграмы ў галіне вонкавае палітыкі й абодвы кандыдаты цешацца амаль аднолькавай папулярнасьцяй сярод насельніцтва, вельмі цяжка сяньня прадбачыць, хто будзе выбраны за новага прэзыдэнта Амэрыкі.

Але ня гледзячы на тое, ці новым прэзыдэнтам будзе дэмакрат ці рэспубліканец Ніксан, трэба цьвёрда верыць, што вонкавая палітыка Амэрыкі будзе іншай, чымся за васьмігадовае прэзыдэнцтва Айзэнгаўэра. Гэтай зьмены амэрыканскай вонкавай палітыкі трэба чакаць ня толькі на падставе выбарных праграмаў абедзьвюх партыяў, бо, як ведама, выбарныя праграмы й палітычныя лёзунгі ў Амэрыцы часта бываюць вылучна толькі дзеля самых выбараў, аб якіх лёгка забываюцца ўжо назаўтрае пасьля самых выбараў. Яркім гэтага прыкладам можа служыць хоць-бы г. зв. «палітыка вызваленьня», у імя якой праводзілася выбарная кампанія рэспубліканцаў восем год таму назад і якая будзіла вялікія надзеі сярод паняволеных бальшавізмам народаў. Але калі рэспубліканская партыя выбары выйграла й ейны кандыдат Айзэнгаўэр абняў становішча прэзыдэнта, дык высокія прынцыпы вызваленьня паняволеных народаў лёгка былі зложаныя ў архіў.

Сяньня не каньюнктуральныя прычыны, якімі зьяўляюцца выбарныя меркаваньні, могуць фармаваць дачыненьні Амэрыкі да народаў сьвету, але само жыцьцё. У вабліччы няўхільнае камуністычнае загрозы й нябывалага завайстрэньня палітычнага напружаньня патрэбы самога жыцьця й пытаньне быць або ня быць вымагаюць неадкладнае й грунтоўнае зьмены палітычнага курсу.

Палітыка ўраду прэзыдэнта Айзэнгаўэра абапіралася на канцэпцыі мірнага суіснаваньня з Савецкім Саюзам і веры, што шляхам міжнародных перамоваў, канфэрэнцыяў і дыпляматычных ходаў удасца ўпарадкаваць узаемадачыненьні між Захадам і Ўсходам і наладзіць узаемнае супрацоўніцтва між імі. Асаблівым жаданьнем Айзэнгаўэра было перайсьці ў гісторыю, як прэзыдэнта, які забясьпечыў амэрыканскаму народу й вольнаму сьвету трывалы мір і высокую ўзроўню дабрабыту. Нажаль, гэтыя высокія ў сваёй аснове ідэялы ў вабліччы агрэсыўнае палітыкі Масквы, якая кіравалася зусім адваротнымі матывамі, ня вытрымалі жыцьцёвае пробы й аказаліся зусім нерэальнымі. Палітыка ўраду прэзыдэнта Айзэнгауэра ў дачыненьні да Савецкага Саюзу й сьветавага камунізму зайшла такім чынам у сьляпы завулак, выхаду зь якога й будзе змушаны шукаць новы прэзыдэнт.

Гэтая новая палітыка, хоць, праўда, у вельмі агульных рысах, і зьяўляецца сфармуляваная ў выбарных праграмах абедзьвюх партыяў.

Галоўнымі пунктамі выбарнай праграмы Дэмакратычнай партыі, прынятай на партыйнай канвэнцыі ў Лёс Анджэлес 12-га ліпеня, зьяўляецца «наважанасьць прывярненьня мілітарнай, палітычнай, гаспадарскай і маральнай сілы Амэрыкі» і наважанасьць бараніць перад усякай камуністычнай агрэсіяй Бэрлін і ўсе іншыя загрожаныя тэрыторыі сьвету. У галіне абароны праграма вымагае такой разбудовы збройных сілаў Амэрыкі, якія былі-б здольныя проціўставіцца кажнай агрэсіі, у тым ліку й абмежаванай. У практыцы гэта абазначае, што Амэрыка павінна засяродзіць сваю ўвагу ня толькі на мадэрнай атамнай зброі, але ўзмоцніць і змадэрнізаваць канвэнцыянальныя збройныя сілы дзеля вядзеньня абмежаваных лякальных войнаў, чаго якраз дамагаліся ад даўжэйшага часу вайсковыя колы Амэрыкі. Перадумовамі ўсякіх перамоваў з Савецкім Саюзам павінна быць у найменшай меры прывярненьне бясспрэчнае мілітарнае раўнавагі з камуністычным блёкам.

Тыя самыя, хоць і іншымі словамі выражаныя, дамаганьні высунула й рэспубліканская партыя. У ейнай выбарнай праграме, прынятай на партыйнай канвэнцыі ў Чыкаго 28-га ліпеня, цьвердзіцца, што будучыя свабоды ў найвялікшай меры залежыць ад мілітарнай сілы Задзіночаных Штатаў і іхных саюзьнікаў. Дзеля забясьпечаньня гэтае мілітарнае перавагі неабходныя новыя натугі амэрыканскага народу. Задзіночаныя Штаты, ня гледзячы на кошты й ахвяры, павінны выказаць свой абавязак абароны вольнага сьвету й не адступаць перад ніякімі пагрозамі й гвалтам.

У гэтых сфармуляваньнях не знаходзім ніякай новай палітычнай канцэпцыі, якая абазначала-б нейкі рэвалюцыйны паварот амэрыканскай вонкавай палітыкі. Наадварот, гэтыя праграмы абараняюць стары прынцып паўстрымоўваньня камуністычнай агрэсіі й такі-ж стары прынцып падзелу сьвету на сфэры ўплываў. Новы мамэнт заключаецца не ў самым зьмесьце палітычных праграмаў, але ў наважанасьці й новых мэтадах правядзеньня іх у жыцьцё. І гэта галоўнае.

Дасюлешняя палітыка паўстрымоўваньня, незаўсёды абапёртая на перавазе мілітарнае сілы, а галоўнае — не абапёртая на бясспрэчнай наважанасьці ўжыцьця гэтае сілы ў вабароне вольнага сьвету, практычна ня была здольнай паўстрымаць агрэсіі, у выніку чаго вольны сьвет здаваў свае пазыцыі адну за другой. У сяньняшніх-жа праграмах абедзьвюх партыяў галоўны націск і кладзецца якраз на гэтай наважанасьці паўстрымоўваньня камуністычнай агрэсіі, на проціўстаўленьні ўсякім пагрозам і гвалтам, на вядзеньні далейшых перамоваў толькі з пазыцыі сілы і з рэальнай магчымасьцяй ўжыцьця гэтае сілы. Такім чынам, прынятыя палітычныя праграмы маюць усе адзнакі рэальнасьці й не зьяўляюцца адно толькі прапагандовымі лёзунгамі.

Можна й трэба крытыкаваць абедзьве праграмы, што яны далей за старыя канцэпцыі паўстрымоўваньня камуністычнай экспансіі ня выходзяць. Але калі ўзяць за выходны пункт, што Амэрыка ў кажнай галіне будзе найперш

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Культурная рэвалюцыя ці рэакцыя

З прапагандай свайго «збудаванага» сацыялізму й «вышэйшага культурнага дасягненьня людзтва» — ленінізму, партыя наважыла стварыць таксама й міт пра так званую «культурную рэвалюцыю» ў СССР наагул, якая пры гэтым павінна стацца прыкладам і нявычарпальнай крыніцай для культурнага разьвіцьця ўсіх іншых народаў. Пайменна, пра гэта гаворыць, напрыклад, партыйны гісторык М. Кім у сваім артыкуле «Аб заканамернасьцях культурнай рэвалюцыі» («Вопросы истории», 1960, № 5), зазначаючы, што «...ў нашае стагодзьдзе сусьветная прагрэсыўная культура мае ў вабліччы савецкай культуры сваю вядучую сілу. Актыўна разьвіваючы культурныя сувязі зь іншымі краінамі, Савецкі Саюз імкнецца ўнесьці свой заслужаны ўклад у справу сьветавай цывілізацыі, пасьпяхова выканаць сваю сусьветна-гістарычную місію перадавой краіны сацыялізму, пасьлядоўна ажыцьцяўляючы ідэі ленінізму, Савецкі Саюз прыклаў агульны для ўсіх народаў шлях культурнай рэвалюцыі».

Малаважнае для нас пытаньне, як да гэтага савецкага самахвальства аднясуцца іншыя народы, як яны ўспрымуць гэтую «сусьветна-гістарычную місію» савецка-расейскае чванства. Тут мы зьвернем увагу на самую сутнасьць успомненае савецкае «культурнае рэвалюцыі».

Як цьвердзіць, напрыклад, М. Кім, «культурная рэвалюцыя» запраўды адбылася ў Савецкім Саюзе, паклаўшы пачатак «чамусьці новаму» й прывёўшы ў наш час да такіх «вярхоў» культурнага здабытку людзтва, як штучных спадарожнікаў зямлі, міжкантынэнтальных і міжплянэтных ракетаў ды да атамавага ледаколу «Ленін». Гэта ўсё сталася толькі дзякуючы «сацыялізму», дзякуючы наступіўшай «сацыялістычнай рэвалюцыі» ў дзялянцы культуры, у якой пытаньне культурнага разьвіцьця ўзяў у свае рукі «сам народ». Яна не магла не наступіць. Будучы прадуктам эканамічнай базы ці матарыялістычнага разьвіцьця грамадзтва, яна, як і «заканамерная» замена ніжэйшых грамадзка-эканамічных фармацыяў вышэйшымі (напрыклад, капіталістычнай фармацыі сацыялістычнай), у сваю чаргу сталася «гістарычнай неабходнасьцяй», «гістарычнай заканамернасьцяй». Ня ў прыклад іншым савецкім гісторыкам і філязофам, М. Кім уважае, што гэтая «сацыялістычная рэвалюцыя» ў дзялянцы культуры наступіла разам з палітычнай «сацыялістычнай» рэвалюцыяй, г. зн. у 1917 годзе. У васноўным яна закончылася ў канцы 1930-х гадоў, прынёсшы культурнае вызваленьне ўсім падсавецкім народам і стварыўшы перадумовы для ўсебаковага разьвіцьця іх нацыянальнай культуры, для разьвіцьця агульнай савецкай культуры новага характару — культуры «народнай», «перадавой» і «прагрэсыўнай», «верхавіну» культуры й цывілізацыі людзтва. Да гэтых здабыткаў «сацыялістычнай культуры», апрача штучных спадарожнікаў зямлі, розных ракетаў і атамавага ледалому «Ленін», адносяцца таксама «ленінізм», зьліквідаваньне няпісьменнасьці, савецкі «соцрэалізм» у літаратуры й мастацве, «сацыялістычная зьместам і нацыянальная формай» культура падсавецкіх народаў, «ітэрнацыяналізм» і «савецкі патрытызм» і г. д., а галоўнае «савецкі гуманізм», які заключаецца ў «гуманных» адносінах да работніка й калгасьніка, выяўляецца ў змаганьні партыі «за мірнае суіснаваньне» й «татальнае раззбраеньне».

Гэтыя «здабыткі» савецкай «сацыялістычнай культуры», якім могуць толькі пазайздросьціць народы «капіталістычных» краінаў, «сацыялістычная рэвалюцыя» ў галіне культуры магла ажыцьцявіцца толькі з ажыцьцяўленьнем палітычнай «сацыялістычнай» рэвалюцыі, з здабыцьцём пралетарыятам палітычнай улады. Таму годныя поўнага асуджэньня тэорыі «рэвізіяністых», якія цьвердзяць адваротнае, г. зн. якія зьвязваюць прыйсьце сацыялізму з культурнай сьпеласьцяй пралетарыяту ці высоўваюць на першы плян культурную рэвалюцыю. Палітычная рэвалюцыя ствярае прадумовы для культурнай рэвалюцыі, а не наадварот.

Такім чынам, можна зрабіць высноў з гэтага разважаньня М. Кіма й наагул цьверджаньняў партыі, што амэрыканскія штучныя спадарожнікі зямлі, міжкантынэнтальныя й міжплянэтныя ракеты, атамавыя падводныя лодкі, розныя вылічальныя электронныя машыны, і наагул заходнюю «капіталістычную» культуру, трэба лічыць нейкай гістарычнай выпадковасьцяй, а ня «гістарычнай заканамернасьцяй» (зьвязанай з сацыялізмам) культурнага разьвіцьця людзтва. З гэтага разважаньня можна падумаць таксама, што Расея й дасюль павінна была-б заставацца ў сваёй спрадвечнай культурнай адсталасьці, калі-б там не наступіла гэтая «заканамерная» зьмена грамадзка-эканамічнага ўкладу жыцьця, ці замена «буржуазна-капіталістычнай» Расеі, Расеяй «сацыялістычнай».

Падобны парадокс разважаньняў М. Кіма выяўляецца таксама ў прызнаньні ім культурных цэннасьцяў мінулага. Праўда, культурнымі вартасьцямі мінулага ён уважае толькі «прагрэсыўныя» культурныя здабыткі, «культуру народу», якія, аднак, вельмі цяжка аддзяліць ад «феадальнай» і «буржуазнай» культуры, бо яны тварыліся ў васноўным «феадальнымі» й «буржуазнымі» элемэнтамі. Пётра I, якога савецкая гістарыяграфія залічае да прасьветнікаў Расеі, быў, напрыклад, найбольшым рэакцыянерам расейскага народу. Тым ня менш, расейская культура ставіцца цяпер у прыклад іншым народам.

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Падзея гістарычнай вагі

Важнасьць і значэньне кажнае ў сьвеце падзеі звычайна ацэньваецца і ўспрымаецца людзьмі ня столькі самым характарам ці памерам тэй ці іншай падзеі — колькі тымі ўмовамі і абставінамі, у якіх гэтая падзея адбываецца.

Хіратонія Япіскапа ў нармальных умовах якога-небудзь народу звычайна праходзіць амаль што няпрыкметнай, прынамся для вонкавага сьвету.

Намінацыя-ж Сьвятым Айцом Папам Янам XXIII а. д-ра Чэслава Сіповіча Япіскапам для беларускіх каталікоў, была ўспрынята й ацэнена ня толькі Беларусамі, а й шмат кім з выдатнейшых чужынцаў, як падзея гістарычнага значэньня для беларускага народу.

Мамэнт гэты моцна падкрэсьліваўся амаль усімі прамоўцамі пры ўрачыстым адзначэньні хіратоніі Яго Эксцэленцыі Япіскапа Чэслава Сіповіча, а самая ўрачыстасьць хіратоніі прыцягнула столькі ўвагі Немцаў і чужынцаў, якія зьехаліся ў Мюнхэн на Эўхарыстычны Кангрэс, што вялізны касьцёл сьв. Анны, разьлічаны на 3 000 асобаў, ня мог зьмясьціць публікі.

Нямецкая й іншая эўрапэйская прэса таксама прысьвяціла шмат больш месца й увагі хіратоніі беларускага Япіскапа, чымся хіратоніям Япіскапаў іншых народаў, што мелі ў гэты самы час месца ў Мюнхэне.

Якія-ж гэтага прычыны — падставы? Мы ня будзем тут затрымлівацца на тых трагічных мамэнтах зь гісторыі царкоўна-рэлігійнага жыцьця беларускага народу наагул і разам з гэтым зьвязанае нашае нацыянальна-палітычнай трагедыі, а спынімся толькі трохі пры гэтай нагодзе на трагедыі беларускай каталіцкай царквы.

Вось-жа, з поўнай аб'ектыўнасьцяй можам сьцьвердзіць, што ніводная каталіцкая царква, якога-небудзь народу ў сьвеце не знаходзілася ў такім цяжкім, да таго скрыўджаным самымі **каталіцкімі гіерархамі** стане — як на Беларусі.

Адзін факт, што на працягу 121 году беларускія каталікі, якія налічваюць звыш 2,5 мільёна вернікаў — ня мелі ніразу і ніводнага беларускага Япіскапа, у той час як з падобнай, ды навет меншай колькасьцю каталіцкага насельніцтва іншыя народы мелі сваіх кардыналаў, — гэты факт найвымаўней гаворыць сам за сябе.

Больш таго — беларускія каталікі, у мінулым падпарадкаваныя польскім, заўсёды шавіністычна настроеным гіерархам, былі нат пазбаўлены сваіх беларускіх радавых душпастыраў-сьвятароў. Беларуская мова была выгнана з касьцёлаў; беларускія сьвятары-патрыёты пры найменшым супраціве паланізацыі — былі караныя за «непаслухмянства» пазбаўленьнем іх парахвіяў, замыканьнем у манастыры, а найчасьцей і высылкай на розныя місыйныя працы за межы Беларусі — у як найбольш аддаленыя землі — у Францыю, Амэрыку, Манжурыю і г. д.

Змаганьне беларускіх каталікоў супраць такой несправядлівасьці, дамаганьне ад Апостальскай Сталіцы сваіх Япіскапаў, да нядаўных гадоў не давалі канкрэтна-пазытыўных вынікаў, бо беларускія каталікі ня мелі такога моцнага заплечча, як свая дзяржава.

Справядлівасьць і праўда адылі заўсёды перамагае, цярпеньні ўзнагароджваюцца.

З ходам гістарычных падзеяў па другой сьветавой вайне за межамі бацькаўшчыны, у вольным сьвеце апынулася поўная частка беларускага народу — эміграцыя.

Відавочна гэта была Боская Воля, каб гэтыя пасланцы беларускага народу сваёй наяўнасьцяй, сваёй прысутнасьцяй, больш наглядна прадставілі вольнаму сьвету крыўды й цярпеньні свайго народу, а ў тым ліку і несправядлівасьць, чыненыя беларускім каталіком.

Пачынаючы ад 1948 году было зроблена шэраг дэмаршаў перад Апостальскай Сталіцай пісьмова і дэлягацыямі, улучна з пэрсанальнай інтэрвэнцыяй у Ватыкане прэз. Абрамчыка з просьбай выдзеліць беларускіх каталікоў ад душпастырскай залежнасьці польскіх і летувіскіх гіерархаў.

Сьвяты Айцец Піюс XII з поўным зразумленьнем і спагадліва паставіўся да патрэбаў Беларусаў і пагадзіўся на назначэньне для беларускіх каталікоў асобнага Апостольскага Візытатара. Гэтым самым усе беларускія каталіцкія сьвятары на чужыне мелі магчымасьць выйсьці з гіерархічнай залежнасьці польскіх і летувіскіх Япіскапаў.

Відавочна Провідам Боскім быў пасланы нам, у гэты якраз час, так патрэбны кандыдат на Апостальскага Візытатара Я. Э. Япіскап Балеслаў Слосканс — Япіскап Менскі і Магілеўскі — з паходжаньня Латыш — сьвяты чынамі чалавек, які так палюбіў быў беларускі народ падчас свайго Япіскапства ў Беларусі і які зь ім супольна столькі пе-

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

## ПАБЫТ ПРЭЗ. М. АБРАМЧЫКА Ў МЮНХЭНЕ

Ад 28 ліпеня да 10 жнівеня прабываў у Мюнхэне Прэз. М. Абрамчык. Мэтай ягонага прыезду было:

1) Даклад камітэту Лігі Вызваленьня Народаў СССР із свайго падарожжа ў Амэрыку.

2) Нарада з Сэктарам Рады БНР у Нямеччыне.

Прэзыдэнт Абрамчык быў прысутны на хіратоніі Япіскапа Чэслава Сіповіча і двойчы выступаў з прамовай на ўрачыстасьцях, зьвязаных зь хіратоніяй.

# Кансэкрацыя Яго Эксцэленцыі д-ра Чэслава Сіповіча

Дзень 4 жнівеня быў радасным і ўрачыстым днём для беларускай калёніі ў Мюнхэне і Беларусаў, якія прыехалі сюды з розных краінаў. У гэтым дні адбылася кансэкрацыя Яго Праасьвяшчэнства Япіскапа Чэслава Сіповіча.

А 9 гадзіне раніцой у касьцеле Сьвятой Анны пачаўся ўрачысты абрад хіратоніі, які трываў больш за дзьве гадзіны. Перад касьцёлам красаваўся беларускі нацыянальны сьцяг, а каля галоўнага аўтара — прыгожы сьцяг з абразом Жыровіцкай Божай Маці. Вялізарны касьцёл быў перапоўнены вернікамі розных расаў і нацыянальнасьцяў. Кансэкратарам быў Я. Пр. Архіяпіскап Кір Іван Бучко супольна з Пр. япіскапамі Платонам Корнылюком і Андрэям Катковам. На пачатку кансэкрацыі прадстаўнік Апостальскай Сталіцы монсіньёр Маёлі прачытаў палацінску папскую бульлю. Пасьля бульля была прачытаная пабеларуску айцом У. Салаўём. Гэты гістарычны дакумэнт выклікаў шчырае ўзварушаньне сярод прысутных Беларусаў. У сваёй бульлі Сьвяты Айцец выразна падкрэсьліў, што прызначае **«біскупа Беларуса для Беларусаў»**.

Калі надыйшоў кульмінацыйны мамэнт кансэкрацыі — г. зн. з грэцкае мовы — хіратоніі, да вялікага аўтара падыйшлі іх Эксцэленцыі Балеслаў Слосканс Апосталькі Адміністратар Менскі і Магілеўскі, архіяпіскап Ю. Гавліна (Паляк), япіскапы — Букатка, Прашка, Шмандзюк (Украінцы), Амісах (архіяпіскап Ганы), Клёд Ролянд Эвшэ (япіскап Мадагаскару), якія палажылі рукі на айца Чэслава. Гэтая разнастайнасьць расаў і нацыянальнасьцяў на кансэкрацыі беларускага япіскапа была як-бы сымбалям еднасьці і ўнівэрсальнасьці Хрыстовай Царквы.

Таксама узварушаючым быў мамэнт, калі новакансэкраваны Ўладыка ў поўным архірэйскім аблачэньні прайшоў праз увесь касьцёл аж на ганак і першы раз, як біскуп, багаславіў прысутных, якія, ня гледзячы на расы і нацыянальнасьці, сьхіляліся перад гэтым багаславенствам.

На заканчэньне Багаслужбы, хаця і невялікі беларускі хор удала адсьпяваў гымн «Магутны Божа». Паўтараю «хаця невялікі», але ў сьпеве вычувалася вэтэранаў нашага мастацтва й школа сьвятой памяці прафэсара Равенскага.

Пасьля Сьв. Багаслужбы ў прыгожай залі Кольпінггаўзу адбылося прыняцьце — урачыстае й цёплае, на якім панаваў дух старахрысьціянскіх «агапэ». Згодна з традыцыяй, на гэтым прыняцьці першым прамаўляў новакансэкраваны Ўладыка Чэслаў. На ўступе ён злажыў падзяку Таму, Хто яго стварыў, паклікаў быць сьвятаром і ўсклаў цяжкую адказнасьць беларускага біскупа на чужыне. Пасьля ён злажыў падзяку Сьвятому Айцу за тое, што ён прыхіліўся да просьбаў беларускага духавенства і патрэбаў Беларусаў на чужыне ды прызначыў **«біскупа Беларуса для Беларусаў»**, а гэтым самым стаўся гістарычны факт аднаўленьня беларускай каталіцкай герархіі. Рэшта прамовы Ўладыкі Чэслава была сьціраваная да Беларусаў. Тут ён спрэцызаваў свае намеры і заданьні, ды запэўніў прысутных, што не пашкадуе нічога для Божай хвалы і дабра свайго народу. Так-жа коратка Уладыка Чэслаў пераказаў свае думкі ў лацінскай і ангельскай мовах, з гледзішча на шматлікіх гасьцей-чужынцаў.

Затым прамаўляў Дастойны кансэкратар архіяпіскап Кір Іван Бучко. На ўступе ён выказаў радасьць, што яму давялося кансэкраваць япіскапа братняга народу. Ён таксама прыгадаў супольнасьць мэтаў беларускага і украінскага народаў у іхным цяжкім, доўгім і ахвярным змаганьні за незалежнасьць і хрысьціянскія ідэялы.

Монсіньёр Маёлі, прадстаўнік Апостальскага Пасаду, зь мілым гумарам выказаў сваю радасьць, што яму ўдалося прылажыць руку да гэтай радаснай падзеі. Ён таксама сказаў, што высьвячэньне беларускага біскупа ёсьць падзеяй вялікага значэньня для ўсей Царквы і што цяпер таксама і беларускі біскуп будзе рэпрэзэнтаваць Беларусаў на маючым хутка адбыцца Ўсяленскім Саборы.

Наступным прамаўляў Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі М. Абрамчык. Ён выказаў глыбокае задаваленьне з гэтай падзеі, прыгадаў цяжкія і ахвярныя змаганьні беларускага народу і беларускай Царквы пад шматгадовымі чужацкімі акупацыямі. На заканчэньне ён пажадаў добрых вынікаў у працы новага душпастыра для дабра свайго народу. Апрача гэтага віталі новага біскупа а. праф. Цыглер і мр. Гай Пікарда.

Сьціплае, але цёплае прыняцьце працягвалася некалькі гадзін, пакуль сакратары Дастойных гасьцей не пачалі ім прыгадваць, што яны мусяць сьпяшацца на працы Эўхарыстычнага Кангрэсу.

5 жнівеня ў прызначаным на час Эўхарыстычнага Кангрэсу Беларусам касьцеле Марыі Добрай Рады адбылася першая Літургія новакансэкраванага Ўладыкі Чэслава. Падчас гэтай Літургіі Ўладыка сказаў натхнёную і палымяную пропаведзь, якая была як-бы ягоным Крэдо душпастыра, Беларуса і чалавека.

Рэпартаж ня быў-бы поўным, калі-б не адзначыць цяжкую і няўдзячную працу галоўнага арганізатара гэтых урачыстасьцяў, духоўнага апякуна беларускай калёніі ў Баварыі, Айца Ўладзімера Салаўя, які выпаціў душу і палавіну цела (можна уявіць, як ён пацёў!), каб усё адбылося стройна і гладка. Пры гэтым (nomen omen) сам сьпяваў як салавей.

Не гаворачы навет аб гістарычнай важнасьці падзеі, цёплыя, сардэчныя сустрэчы Беларусаў з розных краінаў пакінулі доўгі і мілы ўспамін.

пс



Я. Э. Япіскап Ч. Сіповіч пасля абраду хіратоніі сярод вернікаў. Фота: Каваль.



Абрад хіратоніі. З права на лева: Я. Э. Япіскап Платон Карніляк, Я. Э. Япіскап Ч. Сіповіч, Я. Э. Архіяпіскап Іван Бучко і Я. Э. Япіскап Андрэй Каткоў. Фота: Каваль.

## Падзея гістрычнай вагі

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

рацярпеў, а потым за яго адпакутаваў доўгія гады у бальшавіцкай катарзе на Салаўках.

Чатыры зарганізаваныя Каталіцкія Місіі на чале з Апостальскім Візітатарам Япіскапам Слонскасам давалі заруку, што Апостольская Сталіца далей беларускіх каталікоў у крыўду ня дасьць.

Назначэньне Папам Янам XXIII а. Сіповіча **Беларускім Япіскапам для Беларусаў**, як гэта падкрэсьлена ў папскай бульлі — дае цяпер нам гарантыю на поўнае ўнезалежаньне беларускай Каталіцкай Царквы у далейшым ад якіх-бы то ні было каталіцкіх гіерархаў нашых суседзяў.

А ці-ж гэта запраўды не зьяўляецца важным гістарычным мамэнтам для нашага народу, ды асабліва важным гістарычным дасягненьнем у пэрыяд нашага вызвольнага змаганьня?

Як нам сталася цяпер ведамым, Яго Эксцэленцыя Япіскап Чэслаў возьме ўдзел у сусьветным Экамунічным Саборы, скліканым папам Янам XXIII і будзе там рэпрэзэнтаваць каталіцкую частку Беларусі як раўнапраўны делегат зь іншымі народамі каталіцкага сьвету.

Зь Мюнхэну цяпер выяжджае Ўладыка Чэслаў у Рым на нейкі месяц часу. Ён будзе там мець аўдыенцыю ў Сьвятога Айца, дзе будуць абмеркаваныя і ўдакладненыя Ягоныя **адміністрацыйныя** функцыі, дагэтуль пакуль што не ўстаноўленыя.

Знаючы добра Ўладыку Чэслава, як адданага сына свайго пакутнага народу, мы моцна перакананыя, што будзе зроблена ім усё магчымае, каб выправіць усе тыя несправядлівасьці, што дагэтуль былі чыненыя Беларусам.

Зарукай гэтага ёсьць ня толькі ведамы нам патрыятызм Уладыкі Чэслава зь Ягонай дзейнасьці й працы ў мінулым, але і Ягоная дэклярацыя, зробленая падчас казаньня на Ягонай Першай Архіярэйскай Багаслужбе ў Мюнхэне 5 жнівеня. Уладыка Чэслаў заявіў, зьвяртаючыся да прысутных у касьцёле праваслаўных і каталікоў, што **стаўшыся Япіскапам Ён як чалавек** надалей застанецца тым самым — косьць з косьці і кроў з крові Беларусам — і што Ягоная мэта і сэнс Ягонага зямнога быту — служыць Богу і Беларускаму Народу — Беларусі, якую ён бязьмежна любіць. Як Гіерарх, як беларускі Япіскап, Ён ня ставіць сабе заданьнем рэлігійнае змаганьне з праваслаўем, наварочваньне ці адварочваньне кагось, а супольным фронтам усіх Беларусаў каталікоў і праваслаўных, як сыноў аднаго народу — дзьвюх Апостольскіх Цэркваў — весьці змаганьне зь бязбожжам, і з усімі тымі злымі сіламі, якія імкнуцца падзяліць беларускі народ — пасварыць яго міжсобку.

Служэньне Хрысту, Беларускаму Народу, Бацькаўшчыне будзе Яго далейшым жыцьцёвым шляхам, — сказаў Уладыка Чэслаў.

Памажы-ж Яму Божа!

**ГАДАВІКІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

**З Адміністрацыі «Бацькаўшчыны» можна выпісваць поўныя гадавікі «Бацькаўшчыны» (ня пераплеценыя) за наступныя гады:**

1953, 1954, 1955, 1956, 1957 і 1958.

**Цана аднаго гадавіка разам зь перасылкай 5 амэрыканскіх даляраў або іхная раўнавартасьць у мясцовай валюце.**

**Дзеля таго, што ўспомненых камплетаў Рэдакцыя мае вельмі абмежаваную колькасьць, жадаючым іх атрымаць радзім сьпяшацца з выпіскай.**

## Дзьвесьце беларускіх народных песень...

(Працяг з 2-ой бач.)

больш, чымся за 20 год падсавецкай працы Шырмы).

Нарэшце зборнік выдадзены, але ў якім выглядзе? Захоўваючы антырэлігійную пільнасьць рэдакцыя зусім і поўнасьцяй вычыркнула із зборніка гэтакія песенныя жанры, як духоўныя вершы, паданьні, рэлігійна-маральныя. Спустошанымі, выпаласканымі аказаліся абрадавыя цыклі. Гэтак зьніклі зусім песьні вялікодныя, юраўскія, радаўніцкія, траецкія, пятроўскія, пакроўскія; у сямейна-абрадавых ня стала радзінных, хрэсьбінных, хаўтурных песьняў. З тэкстаў веснавых песень выбыла тэма «Ды як даў-жа Бог вясну», з валачобных — матывы Вялікадня, з калядак — сюжэты Божага Нараджэньня, зь вясельных — шлюбныя тэксты. «Выкарчавальная праца» была праведзена настолькі рупліва, што выпушчаныя ўсе выразы, звароты, прымаўкі павязаныя з рэлігіяй, верай, Богам, чым гэтак багата беларуская песеннасьць, асабліва абрадавая. Дзіўна бачыць калядкі бяз цудоўнага батлейкавага зьместу, звыклых і блізкіх сэрцу, без характэрнага прыпеву «Сьвяты вечар», ці валачобныя песьні бяз «чырвонага яечка», без характэрнага рэфрэму «Хрыстос Васкрос Сын Божы». (Тут цікавая розьніца з варшаўскім выданьнем запісаў Федароўскага, дзе яшчэ захаваліся часткава рэлігійныя матывы). У Шырмавым-жа зборніку ўсё гэта бязьлітасна зьнішчана. Тут прыведзены толькі адзін прыклад песьні (№ 51):

«А сягоньня Ўлас,
Радзі Божа лён наш!»,

ды й то імя сьвятога Ўласа (апякуна лёну) ператворана ў звычайнае, а слова Бог надрукавана з малой літары, каб адчувалася антырэлігійнасьць.

Савецкае кіраўніцтва нездарма ставіць на рэдактарскія пасады партыйцаў-спэцыялістых. Апошнія мусяць навесьці чыстку й «парадак» ня толькі ў тэкставай частцы, але й у музычнай мове песень. Тут трэба выцісьнуць, загасіць, замаўчаць своеасаблівыя інтанацыйныя, ладавыя, мэтрарытмічныя адзнакі нацыянальнага песеннага будаваньня (у вапошнім бачаць варожыя ўплывы нацдэмаўшчыны). Якраз аб самым значным і важным — арыгінальнасьці складу беларускай песьні як такой, і крытык Мухарынская ды й сам аўтар Р. Шырма вядуць толькі агульныя, галаслоўныя, пустыя размовы. Р. Шырма ў сваёй прадмове, прыкладам, лічыць, што найбольш старадаўнымі ўзорамі песеннага беларускага будаваньня зьяўляюцца песьні «з дыяпазонам напеву ў вабсягу кварты й квінты». Цяжка паверыць, каб з собскага дасьветчаньня зьбіральнік ня ведаў аб больш старых гукарадах (тэрцавых, трыхордавых), аб гукальных, магічных інтанацыях-ходах, што непасярэдня выцякаюць зь першабытных часоў чалавечай грамадзкасьці (гэта заўважалі яшчэ дарэвалюцыйныя дасьледнікі). Аднак аб такіх істотных і асноўных элемэнтах нідзе няма мовы. Гэта тым больш дзіўна, што ў зборніку ёсьць колькі прыкладаў старадаўнай асновы, хаця іх, пэўна-ж з разьлікам, пададзеная толькі невялікая колькасьць. З гэтага выразна відаць, што рэпрэзэнтацыю народнага мастацтва робяць у Саветах не ягоныя спэцыялістыя, а партыйныя кіраўнікі паводля свайго рэцэпту. Гэтым тлумачыцца й той паказальны факт, што з дарэвалюцыйных запісаў Шырмы (ён пачаў зьбіраць фальклёр яшчэ будучы вучнем) рэдакцыя зьмясьціла ўсяго толькі адзін прыклад («Перапёлка»,№ 26, запіс у 1910 г.), бо занадта вольны тагачасны выбар аказаўся не да густу савецкай рэдакцыі. Аб тым-жа гаворыць і тое, што зь веснавых песьняў, якія пададзены ў зборніку, зьніклі характэрныя веснавыя «загуканьні», адсутнічаюць старыя абрадавыя, працоўныя, вайсковыя й рэкруцкія песьні — выразныя сьветкі традыцыйных, ляканічных і арыгінальных прыёмаў песеннага будаваньня.

Калі партыйна-савецкае кіраўніцтва звычайна пляміць старыя традыцыі, як ідэялізацыю фэадальнага часу, як адсталасьць і прымітывізм, дык, наадварот, усё тое, што выціскае простыя, ляканічныя й найбольш характэрныя спосабы й прыёмы песеннага складаньня — лічыцца за зьявы перадавыя, «прагрэсыўныя», «сугучныя» савецкаму духу. Робіцца відавочным, што і ў Шырмавым зборніку рэдакцыя зьвяртала на гэта найгалоўнейшую ўвагу. Запісаў, што зроблены Шырмам у пасьляваенны пэрыяд 1945-1949 гадоў зьмешчана ў зборніку да 25% ўсяго матар'ялу. Гэта вялікі працэнт калі, з аднаго боку, мець на ўвазе клясычную песенную спадчыну, а з другога — умовы для зьбіраньня такое спадчыны ў часы «жданаўшчыны». Гэныя ўмовы найбольш заўважна адбіліся на пададзеных у зборніку жанрах: балядных, рэкруцкіх, вайсковых і розных бытавых песьняў, што ў васнове былі запісаныя Шырмам якраз у гэны пэрыяд. У песьнях мільгаюць перад вачыма выразы, звароты й словы: «ялінушка», «далінушка» № 113), «крапівушка» № 117), «манінушка» (№ 122), «сьвякровушка», «жаркая» (№ 152), «ребята» (№ 178), «глушы», «случылася», «схаранілі» (№ 184), «убіт» (№ 187), «салдатушка», «забота» (№ 193) і да іх падобных, узятыя з расейскага слоўніка. Над усімі такімі тэкстамі пануе, як вузор, песьня № 193:

«Распрастроіўся (??) слаўны горад і [Масква,
Гэй, гэй, распрастроіўся слаўны горад і [Масква».
(Запіс 1946г.)

Такой «беларускай песьні» мы яшчэ нідзе ня сустракалі й дай Божа, калі-б ня сустрэлі і ў будучыні. Прарыгаюцца ў клясыку й запісы партызанскіх тэкстаў, яўна літаратурнага, а не народнага паходжаньня, як, прыкладам, песьня № 195:

«Ой у полі па ракітай
Дзе клубіцца туман,
Там ляжыць сырой зямлёй зарыты
Малады чырвоны партызан».
(Запіс 1947 г.)

Адзначаючы наяўнасьць у беларускім фальклёры эпічнага стылю й жанру,

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

# ТАМ, ДЗЕ ВІЦЬБА ЎЦЯКАЕ Ў ДЗЬВІНУ

У помніках рэлігіі, гісторыі й мастацтва звычайна знаходзіць адбітак душа народу. Таму зразумела, чаму акупант, падбіўшы тую ці іншую краіну, зьнішчае ейныя нацыянальныя помнікі або перарабляе іх на свой вузор, каб толькі забіць у народзе пачуцьцё ягонае апрычонасьці. А потым ён накідвае яму свае помнікі. І паказальны ў гэтай галіне Віцебск — адзін з найбольш старых гарадоў Беларусі.

Запраўды, даволі прыгадаць толькі Альгердаву гару або Ламіху, сьвятыню Дабравешчаньня, касьцёл у імя Аляксея чалавека Божага, Вусьпенскі сабор, цэрквы Ўваскрасенскую Рынкавую, «Чорную Тройцу», Юрага на Юр'евай горцы, Тройцу Маркавага манастыра, Барысаў камень, Напалеонаўскі палац. Дазвольце пазнаёміць вас зь іхнім сумным лёсам.

На Альгердавай гары ўзвышаўся з 13-га стагодзьдзя віцебскі Верхні драўляны замак, які Альгерд перабудаваў у першай чвертцы 14-га ст. у каменны. Верхні замак, побач зь Ніжнім драўляным, праіснаваў да пажару 28 верасьня 1708 г., калі Пётра Першы загадаў капітану Салаўёву дашчэнту зьнішчыць Віцебск, які падтрымліваў Карла Дванаццатага. А ў 19-м ст. распачаўся наступ і на самую Альгердаву гару. Значную частку яе скапалі, калі муравалі камяніцы акруговага суду і гімназіі імя Аляксандры Першага. Навуковая экспэдыцыя 1939 г. па ўліку помнікаў гісторыі й мастацтва спрабавала абараніць ад зьнішчэньня рэштку гэтае гары, на месцы якое, паводля пляну рэканструкцыі Віцебску, мелася будавацца музычная школа, але... Пасьля вайны гэтая рэштка скапаная. Альгердавае гары больш ня існуе. Між тым, як сьветчыць у сваім паданьні народ, яна была чырвоная не ад гліны, а ад ягонае крыві.

Не дарма адзін з прывілеяў адзначае старадаўні звычай віцяблянаў распачынаць усё сьпярша:

«Сьвятому Дабравешчаньню чалом ударыўшы».

Гэтай царкве тысяча год. Навукоўцы, дасьледуючы ейную кладку, знайшлі, што яна пабудаваная ў 10-м ст. і адноўленая Альгердам у 14-м. Царква Дабравешчаньня прыгадваецца ў пастанове Канстанцкага сабору 1415 г., якой быў прысуджаны інквізытарамі да спальваньня на вогнішчы Яранім Праскі, вучань Яна Гуса. На Нюрнбэрскім працэсе 1945-1946 гг. бальшавікі закідалі фашыстым, нібы тыя падарвалі гэты будынак. У запраўднасьці-ж самыя ў 1932-м годзе перарабілі яго пад архіў, а ў пачатку вайны спалілі, спакінуўшы толькі сьцены. У гэткім выглядзе сьвятыня Дабравешчаньня, што зьяўлялася сэрцам старавечнага Віцебску, стаіць і цяпер.

У 1716 г. езуіты пабудавалі ў цэнтры Віцебску касьцёл у імя Аляксея чалавека Божага. Паасобку ад самога будынку ў барочным стылю стаяла званіца з гадзіньнікам і курантамі, а да самога яго прылягаў гмах калегіуму. Пасьля выгнаньня з Расеі езуітаў Аляксееўскі касьцёл перайшоў да базыльянаў, а пасьля далучэньня вуніятаў да праваслаўя стаўся Мікалаеўскім катэдральным саборам — у гонар патрона тагачаснага цара. І каб вонкава прыстасаваць будынак да новага імпэрскага назову, зьнізілі вежы катэдры й раскапалі званіцу з курантамі, а былы калегіум перарабілі ў архірэйскі дом. Бальшавікі ня менш зьняважылі гэты помнік мастацтва, скарыстаўшы яго, як сховішча збожжа.

Цяжка ўявіць сабе Віцебск бяз Вусьпенскага сабору, які на працягу бадай двух стагодзьдзяў упрыгожваў яго. Велічны, ён у дадатак знаходзіўся на ўзвышаным беразе Дзьвіны ля ўтоку ў яе Віцьбы, а таму панаваў над усім горадам. І разам з тым ягонай велічнасьці была ўласьцівая нязвычайная лёгкасьць паасобных прапорцыяў, што надавала будынку ўвогуле чароўны выгляд. Распачаў будаваць яго ў 1743-м г. для базыльянскага кляштару італійскі архітэктар Фантані, а скончылі ў 1785-м г. невядомыя беларускія дойліды, прыдаўшы яму рысы сучаснага ім клясыцызму. І дасканалы помнік, што будаваўся 40 год, разбурыў у 1936-м г., з дапамогай аманалу, на працягу часткі сэкунды старшыня гарсавету Эстрын.

У тым-жа 1936 г. і той-жа Эстрын падарваў найвыдатны барочны помнік — Уваскрасенскую Рынкавую царкву, што знаходзілася ў цэнтры Віцебску на рагу Падзьвінскае і Суфораўскае вуліцаў. Пра яе існавала ў народзе паданьне, што ейным надзвычайна стройным выглядам захапіўся абыякавы наагул да царкоўных будынкаў Напалеон і забараніў скарыстаць пад вайсковы шпіталь. Яе разбурылі таму, што нібы яна перашкаджала вулічнаму руху, а між тым пабудаваная ў 1772-м г. уся ўгару, да неба, Уваскрасенская Рынкавая царква займала на зямлі параўнальна маленькую плошчу, якая ня прыдалася потым навет пад сквэр.

На віцебскай ускраіне Пескаваціку знаходзілася драўляная царква, якую стагодзьдзі ахварбавалі ў чорны колер, а таму й у народзе яна была вядомая пад назовам «Чорнае Тройцы». Весткаў аб часе ейнае пабудовы не захавалася, але толькі вядома, што ў 1761-м г. яе адбудаваў князь Агінскі. Хто толькі зь беларускіх мастакоў ёю не захапляўся? Яна адбілася на палотнах Пэна і Даркевіча, на гравюрах Юдовіна й Мініна, яе ня зьмінуў навет мадэрны Марк Шагаль. У 1932-м г. бальшавікі парэзалі царкву «Чорнае Тройцы» на дровы для клюбу Парыскае Камуны. Калі аб ейнай пагібелі даведаўся ў Маскве вядомы гісторык мастацтва Ігар Грабар, ён пры людзях заплакаў.

Іншай віцебскай ускраіне, Юр'евай горцы або Сасоньніку, надала свой назоў драўляная, пабудаваная ў палове 18 ст. царква сьвятога Юрага. Паблізу яе быў асабліва шанаваны віцяблянамі калодзеж, зь якога цурком бегла крынічная цудоўная вада, і могілкі з надгробкамі ад канца 17 ст. А наагул ад царквы, што знаходзілася на ўзвышшы, паміж вялікіх хвояў, адкрываўся незабывальны на ўсё жыцьцё краявід на Віцебск. Спачатку бальшавікі наўмысьля засьмецілі, а потым зусім закапалі цудоўную студню, пасьля разбурылі надгробкі і ўрэшцерэштаў раскапалі ў 1936 г. царкву. Але хіба можна пахаваць крыніцу? Празрыстая, як сьляза, яна прарвалася навонкі і цурком бяжыць, як адвеку.

Сучасная віцебская Пралетарская Слабада калісьці называлася Маркаўшчынай ад імя Маркавага манастыра. У 1633-м г. князь Леў Агінскі пабудаваў тут у манастыры драўляную царкву Сьвятое Тройцы, што зьяўлялася адным з бліскучых вузораў беларускае царкоўнае архітэктуры 17 ст. Дарэчы, здымак зь яе ёсьць на бач. 324 віленскага выданьня «Геаграфіі Беларусі» Аркадзя Смоліча. Савецкі навуковец М. Кацар у сваёй кніжцы «Беларуская архітэктура» на бач. 80 у сувязі з Маркаўскай Тройцай піша: «Храмы гэтыя прыгожа гармонізуюць зь беларускай прыродай, зь яе ўзгоркавым краявідам, парослым лесам. Пабудаваныя народнымі майстрамі, яны нагадваюць сабой купы дрэваў, што цягнуцца сваймі галінамі да неба». Аднак разам з тым М. Кацар нічога не сказаў пра тое, што старадаўняе Тройцы Маркавага манастыра цяпер ня існуе — яна раскапаная бальшавікамі ў 1935-м годзе.

Паблізу Маркаўшчыны, каля вёскі Забежжа, у рэчышчы Дзьвіны знаходзіўся вялізны валун — адзін з Барысавых камянёў, раськіданых па ўсяму Надзьвіньню. На ім быў глыбока высечаны крыж сьвятое Эўфрасіньні-Прадславы. Звычайна гэты валун быў пакрыты вадой, а калі паказваўся навонкі, дык гаспадары стругаў — найбольшых дзьвінскіх колішніх суднаў — гаварылі: «Маркаўскі Барыс паказаў крыж — значыцца праз парогі нашыя стругі ня пройдуць». Гэты Барысаў камень падарвалі дынамітам, хоць сам па сабе ён не перашкаджаў суднаходніцтву, а толькі перасьцярагаў ад небясьпекі ў ваддаленых ад яго на 300 кілямэтраў краслаўскіх парогах.

У цэнтры Віцебску, на высокім беразе Дзьвіны, знаходзіцца былы генэрал-губэрнатарскі палац, вядомы больш у народзе пад назовам Напалеонаўскага. У ім Напалеон Банапарт сказаў прызначанаму ім губэрнатару Беларускае губэрні маркізу Пастарэ: «Глядзіце на Беларусь, як на саюзьніцу, а не як на заваяваную краіну». У 1938 г. гэты гістарычны будынак алюбавала для свае сялібы «НКВД». Яно грунтоўна й непазнавальна перарабіла яго і звонку і ўнутры, паводля сваіх катавальных меркаваньняў. А за два дні перад прыходам у Віцебск Немцаў спаліла. Як відаць із здымку, зьмешчанага на бач. 101 вышэйпрыгаданае кніжкі М. Кацара, Напалеонаўскі палац не адноўлены дагэтуль.

Стары беларускі Віцебск ня меў ніколі манумэнтаў, прысьвечаных ні расейскім царом і ні польскім каралём. За тое ў 1928 г. у ім зьявіўся помнік бацькі расейскага бальшавізму, што прылучыўся да пагібелі бадай усіх беларускіх помнікаў. На ягоным Смаленскім рынку, перайначаным у плошчу Леніна, змайстравалі на месцы былых мясных крамаў нязграбны пастамэнт, а на ім устанавілі гэткую-ж няўклюдную постаць, якая на думку скульптара мелася нагадываць Леніна. Слоў няма, вельмі цяжка знайсьці гістарычны суб'ект, што гэтак ненадаецца ўзьвялічэньню ў бронзе, мармуру, граніце й іншых матар'ялах, як Ленін. У жыцьці значна ніжэйшы за сярэдняга росту, з мангольскім тварам і з быццам мачульнай рыжанькай барадзёнкай, крывабокі, з прычыны хадзіцьвыстаўляючы левае плячо ўперад — якая ўжо тут, даруйце, мадэль для статуі. Таму скульптар наважыў надаць Леніну ў віцебскім помніку, як найбольшую манумэнтальнасьць, нібы раскрываючы гэтым нутраны зьмест вобразу — магутнасьць бальшавізму, а ў выснаве атрымалася постаць падобная да гогалеўскага Сабакевіча, калі не да гарыля. Сталічныя камуністыя не аднойчы зьвярталі ўвагу тутэйшых на хібы помніка, але апошнія не адважваліся зьняць яго, каб насельніцтва ня вычула гэта, як антыўрадовую дэманстрацыю. І віцебскі Ленін дачакаўся вайны, калі праз тыдзень пасьля ўцяканьня камуністых віцебляне накінулі яму на шыю пятлю й сьцягнулі з пастамэнту на брук.

У часе Другое сусьветнае вайны Віцебск больш за іншых адпаведных яму па вялічыні гарадоў Беларусі, як Менск, Гомель, Магілеў, палёг у суцэльных крушнях. Перадусім нідзе гэтак камуністыя ў пачатку вайны не пасьпелі выканаць загад Сталіна ад 3 ліпеня 1941 г. аб «голай зямлі», як у Віцебску, а потым, моцна ўмацаваны Немцамі, ён на працягу значнага часу, разам із сваім старым фарпостам Вяліжам, утрымліваў цэлы фронт, і калі нарэшце 26 чэрвеня 1944 г. фашыстоўскіх акупантаў у ім зьмянілі бальшавіцкія, дык увесь фронт заламаўся й хутка пакаціўся на захад. І паказальне, што з ранейшых 181 тысячы насельніцтва ў дзень зьмены акупантаў у горадзе засталося толькі 128 жыхароў.

Прайшлі з таго часу шаснаццаць год. Пашырыліся некаторыя з вуліцаў і забудаваліся шматпавярховымі дамамі, аднавіліся колішнія прадпрыемствы й зьявіліся новыя, зноў пабег па новых мастох празь Дзьвіну трамвай, а пад мастамі паплылі новыя параплавы, даўно ўжо дасягнута й перавыканана перадваенная лічба вытворчасьці віцебскіх хвабрыкаў і заводаў, але затое насельніцтва яго складае толькі 124 тысячы жыхароў. Гэта сьветчыць, папершае, аб павялічэньні эксплуатацыі жыхарства, а, падругое, пацьвярджае тое, што бадай ніякі іншы горад Беларусі гэтак не пакаралі маскоўскія «вызвольнікі» за вольнае й нявольнае сужыцьцё зь Немцамі, як Віцебск. А тады ўжо на вуліцах і сквэрах гораду зьявіліся новыя помнікі, што цалкам адбіваюць аблічча ня Віцебску, а ягоных акупантаў.

На плошчы Леніна зноў узьняўся на пастамэнт бронзавы Ленін, але не параўнальны ў параўнаньні з ранейшым. Тут ён мае эўрапэізаваны твар і наагул выглядае больш галянтна, як і адпавядае палітычнаму камівояжэру із заплямбаванага вагону ды з грашыма кайзара ў кішэнях. А каб яшчэ больш падкрэсьліць, што гэта ніхто іншы, як ён сваёй собскай пэрсонай, дык на пастамэньце выразна, як на шыльдзе крамкі, адзначылі — Ленін. Аднак гэты стандартны для гарадоў СССР помнік, які ўжо аднойчы ськідвалі, дасьць Божа, ськінуць зноў назаўсёды, каб ніколі больш не аднаўляць, менш зьдзіўляе, чым іншыя помнікі, што зьявіліся ў Віцебску пасьля вайны.

У 1954 г. імпэрыялістычная Масква ўрачыста адзначала 300-годзьдзе далучэньня да яе новае калёніі — Украіны за часы гэтмана Хмяльніцкага паводля Пераяслаўскага трактату. З гэтае прычыны горад Пераяслаў быў перайменаваны ў Пераяслаў-Хмяльніцкі, горад Праскураў у Хмяльніцкі, а Камянец-Падольская вобласьць у Хмяльніцкую. Адначасна па ўсяму СССР зьявілася безьліч вуліцаў, калгасаў і прадпрыемстваў імя Багдана Хмяльніцкага. На раздарожжы шасы Кіеў-Харкаў і дарогі на Пераяслаў-Хмяльніцкі пабудавалі ў гонар угодкаў манумэнт з паліраванага граніту і з бронзавым барэльефам, прысьвечаным г. зв. Пераяслаўскай Радзе. У Маскве перад Кіеўскім вакзалам таксама пабудавалі манумэнт у сувязі з угодкамі. А ў самым Кіеве яшчэ царская Масква на плошчы перад старавечным Сафійскім саборам паставіла прыгожы помнік Багдану Хмяльніцкаму, на якім гэтман седзячы на кані, паказвае булавой у бок тае-ж Масквы. Аднак ўсё-ж — прычым тут Віцебск, у якім пасьля вайны на сквэры імя Багдана Хмяльніцкага змайстравалі яму помнік?

Перагортваючы бачыны летапісаў, мы пабачым, што ў 1516 г. Расейцы напалі на Віцебск, спапяліўшы яго, праз тры гады яны зноў зьявіліся тут, забіўшы ў часе бою мноства віцяблянаў. У 1534 г. спустошыў ваколічнасьці Віцебску князь Барыс Гарбаты, а праз два гады спалілі сам Віцебск, захапіўшы шмат палоньнікаў князь Гарэнскі й Барбашаў. У 1562 г. спаліў прадмесьці Віцебску князь Курбскі, а шэсьць год пазьней асаджалі яго Шэрамецьцяў, Бутурлін і Сабураў. Але, зьнішчаючы сам горад, Расейцы ніколі ня ў стане былі здабыць ягоныя замкі, што заўзята абараняліся віцяблянамі.

Гаротная гісторыя прывучыла віцяблянаў зь недаверам ставіцца да падступнае Маскоўшчыны. Таму, калі ў 1602 г. да іхняга гораду падступіў адзін з папярэднікаў Багдана Хмяльніцкага — украінскі казацкі атаман Дубіна «зь вялікай сілай», як сьветчыць летапіс, дык яны ўгледзілі за ім тае-ж зьвярынае аблічча крывадушнае Масквы. І калі пазьней спадмануты Масквой Багдан Хмяльніцкі яшчэ пры жыцьці пераканаўся, што сваім Пераяслаўскім трактатам наклаў на свой народ расейскія ланцугі, дык за тое віцябляне загадзя ў сваім ад-

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

---

**Абрам Тэрц**

# Суд ідзе

**(Працяг)**

Пасьля першага тосту за здароўе нованароджанай усе накінуліся на ежу, і Карлінскі змог, нарэшце, больш заняцца Марынай. Прымасьціўшыся ля яе зьлева (з правага боку, як належыцца, сядзеў Уладзімер Пятровіч), ён кідаў жарты ў адрас гасьцей, чым вельмі забаўляў чароўную гаспадыню, выклікаючы зайздрасьць у іншых мужчын.

— Палітычная ляяльнасьць нашага сходу забясьпечана, — кіўнуў Юры ў бок сьледчага Скромных, даўнага прыяцеля сям'і Глобавых.

Марына была ў настрою. Яна сьмяялася з жартаў Карлінскага, частавала бліжэйшых суседзяў, падкладвала сабе ў талерку найбольш ласыя кускі, вывучала туалеты дамаў, не забывалася й на Уладзімера Пятровіча, ад часу датыкаючыся ягонае нагі пад сталом, і лёгкім рухам неяк кіравала служанкай, наглядаючы за бесьперапынным канвэерам вінаў, салатаў і сосаў. Таму ўсе неаслабна адчувалі сьвяточную прысутнасьць Марыны, елі, пілі, гаварылі дзеля яе аднае. І гэта было ўсім прыемна, а ёй таксама.

— Зьвярнеце ўвагу, — нагнуўся да яе Юра, — зь якім запалам гэты ахоўнік дзяржбясьпекі расхвальвае свайго выпладка. Усе прафэсыянальныя турэмнікі, паводля маіх назіраньняў, пяшчотна любяць дзяцей. Дабро й зло ўраўнаважаны ў прыродзе...

Марына Паўлаўна палічыла патрэбным адказаць:

— Мабыць, дзеля гэтага, Юры Міхайлавіч, адвакаты ў дамовым коле так жорсткія й злыя?

— Каменьчык у мой гарод? Але-ж якога гуманістага ня вывядзе зь цярпеньня гэтае бацькоўскае сюсюканьне? Можна падумаць, што тут адныя садыстыя й махляры.

Размова вялася запраўды аб дзецях.

— А дзе Сяргей? — папыталася жонка сьледчага. І ня ўправілася Марына адказаць, што ейны пасынак разам із школай выехаў выбіраць бульбу, як муж Скромных зацягнуў сваю звычайную арыю: «А вось мой Барысок...» Усе захапляліся розумам дзесяцігадовага хлопчыка.

— Я п'ю за дзень народзінаў вашай будучай дачкі, Марына Паўлаўна. За нарэчаную майму Барысу! — нечакана закончыў сьледчы.

«Няўжо яна цяжарная?» — падумаў Юры, аднак, паглядзеўшы на спакойнае аблічча Марыны, супакоіўся: гэты сьледчы гатоў спарваць незачатых дзяцей.

Уладзімер Пятровіч таксама быў зьдзіўлены: ну й нюх у Аркадзяга Скромных — ужо ўсё ведае! І каб ня выдаваць прыемнае таямніцы перадчасна, пракурор пазваніў лыжачкай аб бакал, узяў слова:

— Хоць ты й стары сьледчы, Аркадзь Гаўрылыч, аднак-жа доказаў ты ня маеш, і справу часова спынім з прычыны адсутнасьці праступства. Вып'ем лепш за ўсіх нашых дзяцей, за трывалае сямейнае жыцьцё!

Госьці падпарадкаваліся.

— Што такое чалавек сямейны? Гэта — паважны чалавек і ў сяброўстве, і на працы, і ў дзяржаўным сэньсе надзейны. Хто дзяцей нажывае, той добры грамадзянін. Ён аб сям'і думае, аб будучыні, аб нашчадках, на зямлі ўкараніцца жадае. Ён увесь на вачох.

Глобаў раскрыў далонь, шырокую як талерку і, сьціснуўшы яе ў кулак, працягваў:

Я асабіста прыхільнік шматдзетнай сям'і. Сам з такое выйшаў. Нас, Глобавых, на ўсім сьвеце як у лесе грыбоў. І стралялі нас, і рэзалі, а вось не перавялося, ня зьнішчылася глобаўскае племя. Малодшы брат — на Далёкім Усходзе палкоўнік, другі — на Каспіі рыбным камбінатам арудуе, сястра ў Ленінградзе ў мінулым годзе дысэртацыю абараніла...

Пальцы пракурора разьгібаліся, пачынаючы зь мезенага. Вось і указальны. Гэта, праўдападобна, быў сам пракурор — просты, моцны, з адпаліраваным пазногцем на канцы.

— І ёсьць-жа людзі — за бязьдзетнасьць агітуюць. Учора чыталі ў газэце? Нэамальтузіянства. Цэлы падвал. Вельмі-ж яно пашырана на Захадзе — гэтае нэо. І ў нас штосьці падобнае можна яшчэ сустрэць. Мне ў рукі адна справа папалася...

Перагінаючыся праз бутылкі, Глобаў зашаптаў сьледчаму. Госьці накіравалі вочы да ежы, дадумоўваючыся — аборт.

Карлінскі перамог раптоўны напад млоснасьці. Каб расьсеяцца, пачаў думаць аб Мальтусе. У кажнай тэорыі ёсьць свая праўда. Нельга-ж размножвацца ў бесканцовасьць? Заселім Сахару, Антарктыку, а далей куды? Вось тут і трэба вынайсьці штосьці ўнівэрсальнае.

Вядома-ж — чалавечы зародак на нейкай раньняй стадыі прыпадабняецца да рыбы. Пашто-ж гінуць рыбным багацьцям краіны? У цудоўным будучым гэтых мілых рыбак выкарыстаюць. Асьцярожна выймуць з лона маці і пачнуць разводзіць у асобных ставах, прывучаючы да самастойнасьці. Хай сабе абрастаюць луской й плаўнікамі пад дзяржаўнай аховай якога-небудзь глобаўскага сабрата. Тут-жа, пры абартарыі — рыбазавод, кансэрвы ў вялічэзнай колькасьці. Каго ў шпроты, каго ў кілечкі — паводля нацыянальнае адзнакі. І ўсё адбудзецца згодна з марксізмам. Мы зноў вернемся да людаеднай закускі. Але не назад, не да першабытнага пажыраньня сабепадобных таварышоў а, так сказаць, на больш высокай і далікатнай аснове. Разьвіваючыся па сьпіралі...

Юрага ўжо ня нудзіла. Ён быў у захапленьні: ці не пазнаёміць Марыну Паўлаўну з гэтай арыгінальнай ідэяй. Але покуль ён сумляваўся (усё-ж дама), Марына сказала:

— Валодзя, што за сакрэты ў таварыстве? Гэта нетактоўна. Еж сваю рыбу.

☆

Засычэла кружэлка. Прастуджаны тэнар завёў старое, дваццатых гадоў танга.

*Был день осенний, с деревьев листья опадали,*
*В хрустальных астрах печаль усталая цвела...*

Расейскі эмігрант з парыскага шантану сьпяваў аб непераможаным каханьні. І хаця крыштальных астраў ня бывае усім зрабілася нясвойска, калі тэнар з тужлівым зьдзіўленьнем усклікнуў:

*Ах, эти черные глаза!*

— «Ах, эти черные глаза», — падхапіў на нізкай ноце нябачны хор.

*Меня пленили...*

— смуткаваў белаэмігрант, і хор глуха наракаў: — «Меня пленили,...»

*Их позабыть не в силах я,*
*Они горят передо мной...*

Уладзімер Пятровіч асьцярожна рухаўся з Марынай між танцуючых параў. Аўтаматычна, пад гіпнозам, яна выбівала такт. Шчасьлівае бязвольле калыхала яе. Дрыжыкі, быццам бурбалачкі зь мінэральнае вады беглі ўздоўж пазваночніка — да шыі — па зьзябнутай скуры затылку — да кончыкаў наэлектрызаваных валасоў.

*Ах, эти черные глаза!*
*Кто вас полюбит...*

# АПАДКІ

Хто ведае, можа гэта ўжо і ўсё — казаў той: кропка! Можа ўжо ня будзе каму і аб чым казаць. — Перакінемся яшчэ раз у любыя нашы родныя мясьціны, дзе кружылі мы ў жыцьці сьцежкамі-дарожкамі, ня раз спатыкаючы й злыдзень, галечу й бяду, і незаслужоную крыўду, зьдзек, але ніколі не пазбыўшыся чараў нашай маці-зямлі.

Наш народ з пагардай адхіляецца ад тых, хто выракаецца ягоных самабытнасьці, мовы, культуры, традыцыяў, звычаяў... Яшчэ ў старыя часы, калі ўсё наша — апрычонае, непадобнае ні на расейскае, ні на польскае, каралася паводля найвышэйшых законаў, яшчэ ў гэтыя **старыя часы**, зьяўляліся **волаты** нашага новага **паўстаньня зь мёртвых** — Мацеі, Бурачкі, Канстанты Міцкевічы, Янкі Луцэвічы, Лесікі, Смолічы ды соткі й соткі іншых. Беларускі народ нясе іхныя імёны на сваіх шчытох, творачы сваю **новую** гісторыю, па-ранейшаму з пагардай адхіляючыся ад тых, хто — як было ўжо ўспомнена — выракся й выракаецца сваіх і свайго, ахрысьціўшы іх адным трапным словам — **ападкі!** Як ападкі, з чэрвяточынай сярэдзіне, упаўшы зь яблыні, згніваюць бязьсьледна у траве, гэтак і яны бясьсьледна гінуць для свайго народу, выслужваючыся перад чужакамі, стараючыся прысмактацца да чужой культуры.

Аб адным гэтакім ападку й будзе гэтая гісторыя.

У абсягу Меншчыны ёсьць шмат малых і вялікіх катлавінаў. Адна зь іх ляжыць на прасторы некалькіх тысяч квадратных гэктараў: ад Сёмкава на ўсходзе, да Ратамкі на заходзе, і ад Заслаўя на поўначы, да Ждановіч на поўдні. Утворана яна трыма, хоць і невялікімі, але топкімі балотнымі рэчкамі: Вячкай, Сьвіслаччу й Ратамкай. Тут, навет, у тыя, няспрыяльныя для рыбніцтва й паляўніцтва часы, можна было добра парыбачыць і папаляваць, ведаючы патаемныя куткі й закуткі сярод непралазных багнішчаў і чаротаў, дзе магла хавацца й пладзіцца рыба й дзічына. Ўся гэтая катлавіна заліта цяпер вадой і называецца «Беларускім морам».

На адным зь пясчаных берагоў яе, купкай, як баравікі ў лесе, стаяла некалькі хатак хутара Дразды. Балеслаў Дрозд, адзін з хутаранцаў, якога ў ваколіцах дражнілі Кароль Ягела, за тое, што ён, некалі вярнуўшыся з войска у Вільні, любіў апавядаць пра нашага славутага караля Ягелу, і як ён пабраўся з прынцэсай Ядзьвігай і потым стаў каралём Польшчы, — гэты Балеслаў Дрозд быў заядлы рыбак і паляўнік. Адчуваў ён сябе ў гэтай катлавіне запраўды каралём. Быў гэта чалавек неўхарчаваны: худы, з падцягнутым жыватом, зь вельмі ўжо пляскай паясьніцай, на якой не маглі ўтрымацца нагавіцы і ён іх вечна сморгаў угару рукой, — як бачым — па — выгляду ніяк не падобны на якога караля, а тым больш на багатага й славутага Ягелу, — але выяўляў вялізную жыцьцёвую энэргію. Дзень смажыцца на сонцы падвойваючы папар, носячы пожню, цягаючы на плячах ношкі сена з багнаў або жнучы ды возячы снапы, а ўночы — рыба. Хто ў ціхую летнюю ноч, пры сьвятле месяца, бясшумна склізіць на чаўне — душагубцы па вадзяной гладзі сярод чаротаў? Балеслаў Дрозд. Хто, яшчэ як толькі стала віднецца, каб пасьпець вярнуцца да сьняданьня, басанож па цёплым парным пяску і мчыцца сьцежкай паміж жытоў ды лажкоў з кошыкам за плячыма, каб прадаць у Менску рыбу, якую налавіў за ноч, калі не прадаў яе Жыдом-дачнікам, — зноўжа Балеслаў Дрозд. Але напісаныя рыбацка-паляўнічыя законы былі для яго сьвятым запаветам. Калі хто-небудзь уначы выпатрышыць чужую рыбіцу, здыме з рагулькі, якую ён ня ставіў, шчупака, што трапіў на кручок, ён бунтаваўся й бубнеў: «руку такому адсячы і больш нічога!» Сьціпла захоўваў ён і пісаныя рыбацка-паляўніцкія законы, як запраўдны гаспадар, моцна ненавідзячы тых, хто выбіраў птушыныя яйкі, разбураў гнёзды, парушаў тэрміны паляваньня й рыбалкі.

Гэта яму крыху, — ды навет і добра! — шкодзіла ў грамадзтве: баяліся, што ён занадта ўжо патрабавальны й можа нарабіць шкодаў гэтым самым, і таму, нягледзячы на тое, што ён лічыўся ў беднякох і быў досыць пісьменным, каб выконваць якія-колечы грамадзкія абавязкі на вёсцы або ў сельсавеце, ніколі й нікуды яго ня выбіралі.

Хаціна ягоная ніколі не запіралася ні ў дзень, ні ўначы, на замок, і ў яе можна было ўвайсьці ў любую пару дня й ночы. Гэта для мяне, як рыбака й паляўнічага, часьцяком наведваючага гэтыя мясьціны, было вельмі зручным, і я ня раз заходзіў у хату ў вадсутнасьці каго-небудзь з гаспадароў і разьмяшчаўся тут, як дома.

На гэты раз Балеслава я застаў на двары. Ён стаяў за рогам аборыны й шчыльна ўглядаўся некуды ў даль, бязупынку сморгаючы ўверх рукою па сваёй шарай даматканай нагавіцы, што паказвала на ягоную ўзьюшанасьць. Паставіўшы свае вуды каля страхі, я ціха падыйшоў і прывітаўся. Не адводзячы зроку ад таго, на што глядзеў, Балеслаў паклікаў мяне да сябе рукою.

— Бачыш? — сказаў ён, паказваючы аднымі вачыма некуды за абарыну, на ўзьлесак. — Прыехаў. Ага! Вунь, бачыш? Прыехаў!

На пясчаным узьбярэжжы сасновага ўзгорку, пры бесклапотна цурцэўшай ручаіне, выбягаючай зь лесу й апавітай з абодвых бакоў роўненькім як падстрыжаючы ланцужком маладога алешніку, стаяў домік на колах, афарбаваны ў вясёлыя колёры вясны. Каля яго завіхаўся чалавек, і — відаць было — вайсковец і сінія штаны галіфэ, увабраныя ў боты, ахоўнага колеру мундур, расшпілены зь пераду, з пад якога віднелася белая кашуля, і характэрная для савецкіх ахвіцэраў старэйшага рангу, адкормленая бычастая фігура з досыць паважным, адкладзеным на каўнер, каркам, на якім пабліскавала на сонцы круглая, як бручка, начыста выгаленая галава. Ахвіцэр то згінаўся, нешта бяручы, то некуды ішоў, зьнікаў за дрэвамі лесу, то зноў зьяўляўся, выносіў нешта з доміку на колах, — карацей кажучы, было відаць: уладкоўваўся на новым месцы.

— Прыехаў! — паўтарыў Балеслаў. — Каторы ўжо год падрад прыяжджае. — Потым зірнуў на мяне як-бы вінаватымі або ўстрывожанымі вачыма. — Брат мой родны, х-ы!..

Я чуў ня раз ад Балеслава, што ёсьць у яго недзе брат, але кім ён і дзе прабываў, не дапытаўся.

— Чаму-ж ён не заяжджае сюды, да вас, у вашым-жа гумне найпрыгажэйшае месца, каб адпачыць тыдзень-два на сьвежым паветры!

— Цураецца! Бачыш, цурацца стаў цяпер нашага мужыцкага пабыту, як начапіў енеральскія значкі на мундуры...

— І так і пячэцца там, у сваім доміку, адзін, не ўзнаючы вас?

— Чаму-ж — адзін? Ён не адзін — жонка, дзьве дачушкі. І нуды ў яго тамака мала: стрэльба добрая для паляваньня, а качак тутака ёсьць і цецярукоў, сабака добры, выжла, вуды, дык, кажа, няма часу ў вас, мужыкоў, бываць!

Балеслаў крыху памаўчаў, ня спыняючы глядзець з-за аборыны на вясёлых колераў домік.

— У яго тамака лектрыка, вадзіца цурчыць з кранціка, у малюханькай печаццы пірагі пякуцца і каўбаска падсмажваецца, куды-ж яму цяперака да нас? Жонка вымашчаная пархумамі — не падыйсьці, дачушкі ў шаўковых суконачках і зь істужкамі на галоўках — запэцкацца аб нас могуць... Выракся! — выклікнуў Балеслаў, раптам, зь нейкім узрушаньнем у голасе. — І сумленьня — ніякога, дарма, што аднэй дзюравай сьвіткай накрываліся ў дзяцінстве, — ён да сябе, мне сьцюдзена, я да сябе, яму сьцюдзена... Цяперацькі мы зь ім, хоць ён і брат мне, як-бы падзяліліся на клясы — я мужык, а ён пан!

Балеслаў спрытна і ўзьюшана сморгнуў рукой па нагавіцы.

Я глядзеў яму ў вочы, намагаючыся зразумець ягоныя пачуцьці.

— Выракся! Цярпець ня можа ні нашай, як ён кажа, мужыцкай мовы, ні нашага пабыту, страваў, звычаяў, сьвятаў... Кажа — адсталасьць гэта, бо вы адсталыя, мужыкі...

— Я думаю, што ўсё гэта больш ад жонкі, — заўважыў я.

— Не, няма чаго Бога гнявіць, жонка якраз тады-сяды зойдзе, то малака папрасіць, то цыбуліну, сядзе, пагутарыць і, навет, нанашаму ўмее... А ён — не! Першы год, як прыяжджаў у сваім доміку, дык, праўда, адзін раз пабываў у хаце... Месяц будзе тутака стаяць, а ня зойдзе. Ходзе па грыбох ды па ягадах, па рыбе ды па паляваньнях — усё тутака ягонае, а пацікавіцца нашым мужыцкім пабытам — не! А потым будзе выхваляцца, там, як вернецца: «не губляе сувязі зь вёскай», «шэфствуе», значыцца, над ёй. Гэтак значыцца, цану сабе набівае і мэдалікі новыя налеплівае...

Балеслаў паглядзеў на свае пабітыя ранамі босыя ногі.

— Во як хаджу, а ён у мяккі хром загарнуў свае... А пад аднэй сьвіткай, бывала... Такіх шмат! Я кажу: ападкі гэта! Вышлі з нас, навучыліся на нашы грошы, а цяперака пакінулі нас у бядзе. Мовай, навет, матчынай пагарджаюць: Чэрвяком знутры зьедзеныя...

Гэта было ў тыя «векапомныя» часы, калі чалавек пакідаў хату няпэўным, што ён вернецца ў яе. Гады 1936-1937! Гутарка й так здавалася мне занадта шчырай. Ды й пара было да рэчкі — вечарына стаяла цудоўная — ціхая, цёплая. У такія вечары добра бярэць язь на гарох у падкормленых ямах пры перакатах, гэта значыць каля плыткіх месц, дзе вада вымывае розны корм з дна рэчкі. Я аблюбаваў ужо даўно тут некалькі такіх віроў паблізу ад плыткіх месц зь пясчаным чыстым дном, як раз падкармліваў язя тут гарохам, і ведаў, дзе трэба сесьці, куды й на якой тоні закінуць і куды павядзе рыбіца пасьля таго, як возьмецца, — карацей кажучы, у гэтых мясьцінах я спадзяваўся добра парыбачыць.

За вечарыну мне й праўда ўдалося падчапіць пару кілаграмавых язёў і я пакідаў затоку з жалем і толькі тады, калі стала ўжо зусім шэра й плаўнічок зьліваўся з гэтай шэраньню, так што сядзець каля рэчкі ня было сэнсу, тым больш, што й ад камароў ня было чым абараніцца. У хату да Балеслава я вярнуўся з абкусаным тварам, рукамі й нагамі. Балеслаў яшчэ ня спаў і на маю скаргу на камароў параіў пакусаныя мясьціны змачыць вадой і нацерці сольлю; спаць-жа загадаў ісьці на сена, дзе камароў няма й ня так душна.

Раніца выдалася такая-ж цудоўная, як і ўчарашняя вечарына: ціхая й цёплая. Шматлікая машкара снавала над вадой, і рыба ганялася за ёю, час-ад-часу выскакваючы наверх вады з гучным плёскам. Я меркаваў, што і Балеслаў выйдзе «пасядзець над вадой» із сваёй доўгай крываватай вудай, але ён чамусьці, на гэты раз ня ўстаў, што было такім самым дзівам, як калі-б у гэтую чэрвеньскую раніцу раптам спынілі свае сьпевы жаўрукі. З самай раніцы мне пашанцавала падчапіць яшчэ пару добрых язёў. Астатні язь так доўга і ўпарта не даваўся, стралой кідаючыся то ў вадзін, то ў другі бок, то падскокваючы ўгару, то зноў стромка імкнучыся на дно рэчкі, што нарабіў шмат галасу. Толькі я наважыўся перайсьці на другую аблюбаваную мною яміну, дзе ўчора добра сыпануў прынады, як убачыў паміж чаротаў постаць у зялёным вайсковым картузе, якая памалу, выбіраючы больш бясьпечныя мясьціны, каб ня ўехаць па пахі ў дрыгву, сунулася да мяне. Ня цяжка, пасьля ўчарашныга, было зразумець, што гэта і ёсьць той самы «енерал» — Балеславаў брат. У аднэй руцэ ён нёс бамбукавыя вуды зь нікелевымі наканечнікамі на камлях, каб добра было ўтыркаць у зямлю, у другой іншыя рыбацкія прылады ў блакітнай скрыначцы. На поясе за плячыма вісеў складаны зэдлік, каб сядзець на ім каля рэчкі.

Я пасьпяшаўся ветліва прывітацца зь ім, адчуваючы, паміма сваёй волі (нагул з асобамі такога рангу сяброўства ў мяне не атрымлівалася) нейкую трывогу. «Енерал», не зьвярнуўшы на маё прывітаньне ніякай увагі, быццам яго й ня чуў, срога і катэгарычна, на чыстай расейскай мове, запытаў:

— Хто вам дазволіў тут лавіць рыбу?

Усе вадаёмы на Беларусі, за выключэньнем спэцыяльных рыбсаўгасаўскіх, былі вольныя для лову рыбы вудачкай для ўсіх Беларусаў, а таксама і не Беларусаў, пражываючых на Беларусі, ува ўсе часы году, і гэта пытаньне, ды яшчэ такім тонам, не магло мяне не абразіць. Тым ня менш, я ветліва, але, праўда, не бяз пэўнай гіроніі, як заўсёды, не здраджваючы сваёй роднай мовы, у сваю чаргу запытаў:

— А хіба мне, на сваёй бацькаўшчыне, у дазволеныя часы й дазволеным спосабам у дазволеных мясцох, трэба яшчэ ў неўкага пытацца асобнага дазволу? Што азначае ваша пытаньне, генэрал? Ці ня тое, што вы ўзялі на сябе не адпаведную місію?!

«Енерал» аж выпусьціў на траву вуды й скрыначку, пэўне-ж, так прызвычаіўся ўсюды, а тым больш, на вёсцы, «повелевать», — і ў гэты-ж час я ўбачыў у яго з правага боку на рамяні кабуру ад браўнінга (наганы ў тыя часы навет генэралам насіць было забаронена). Зразумела, мне напляваць на ягоны пісталет, — страляць мяне ён тут ня будзе, але ўнутры ў мяне пахаладзела ад узбунтаванага гонару.

«Енерал» выпрастаўся, быццам-бы аддаваў каманду цэлай дывізіі, і сказаў:

— Перш-на-перш, прашу гаварыць зы мной агульна-зразумелай мовай, а ня нейкім вузка-адсталым дыялектам, перапоўненым аджылымі архаізмамі, за якія ў наш час сьціроўваюць туды, дзе Макар цялят ня пасьвіў...

— Менавіта, цалкам вы і ёсьць гэты «архаізм», і дзіўна, што ў наш век надалася магчымасьць выявіцца вось гэтакім на груньце дзяржавы, — падумаў я, але нічога не сказаў, а толькі прабурчэў ня выразна, успомніўшы гутарку з Балеславам. — Ападак!

— Што? Як вы сказалі? Я вас не разумею! Гаварыце...

Тут увесь мой гонар выбухнуў наверх і я катэгарычна і нядвухсэнсоўна адрэзаў:

— Папершае, мыліцеся, што да мовы: не дыялект і не архаізмы, а чыстая наша беларуская мова, на якой гаворыць наш народ, а ў тым ліку й вашы бацькі, на працягу тысячагодзьдзяў. І дзіўна мне чуць ад вас, што вы мяне не разумееце! Паменшай меры, гэта ня шчыра. Падругое, выходзіць, што вы, на нейкай ня існуючай падставе, наўсуперак законам савецкай улады, забараняеце мне карыстацца сваёй роднай мовай, значыць, касуеце мяне, як чалавека, бо іншай якой-

(Працяг на 6-ай бач.)

---

— «Ах, эти черные глаза», — уздыхнула Марына.

Ня гледзячы ў бакі, яна ведала, што ўсе глядзяць на яе й ёю аднэю любуюцца. Кажны мужчына тут мроіў танцаваць толькі з аднэй Марынай. І ёй хацелася йсьці і йсьці без канца пад гэтую песьню аб неперахможаным каханьні, ісьці па ўсёй зямлі, мяняючы краіны, часы, партнэраў, і, нікога не кахаючы, зьнемагацца ад шчасьця, што ўсе цябе кахаюць і што табе лепш за ўсіх.

— Сяньня я выбіраю музыку й кавалераў! — абвесьціла Марына, пускаючы кружэлку яшчэ раз. Яна адплыла з Карлінскім, як толькі зацьвілі астры, якіх ня бывае на сьвеце.

*Их позабыть не в силах я,*
*Они горят передо мной...*

— падпяваў Юры ў цёплае вушка Марыны.

Ён сам ня думаў, што ягоную выпрабаваную душу так расчуліць бульварны раманс. Аднак колькі ня выскаляўся Юры над гэтай мяшчанскай экзотыкай, ён ня мог разьвеяць ейнае вытанчана-пошлае чароўнасьці.

У ананасавых гаёх цьвітуць крышталёвыя астры. Ля фэшэнэбэльных гатэляў, на фоне суцэльных пэйзажаў туляюцца ўзад і ўперад прыстойна апранутыя мужчыны зь лясачкамі й залатымі зубамі. Сымпатычныя дамы ў будуарах і — як яно? — у кулюарах заляцаюцца. А вакол саксафоны, чычысбэі, нэгліжэ. Гандолі й гандоны. Грывуазна ныраючы. У чарцы ад сэрвізу палымнее лікёр. Пеця + Тося = Каханьне. Люэс.

А Марына прытулілася да яго, пакорная й даверлівая. Як быццам яна зразумела, урэшце, хто ейны выбраны. Быццам непатрэбна ёй нікога-нікога, апрача Юрага. І магчыма ў жыцьці — калі ўжо не каханьне, дык прынамсі звычайная пяшчотнасьць.

Вось тут, пасярэдзіне, Марына зьмяніла партнэра. На ейны знак падскочыў сьледчы Скромных, вывіхаючы задам. Ён уцягнуў Марыну ў новы кругаварот.

Уладзімер Пятровіч суправаджаў насьмешлівым позіркам адзінокую постаць Карлінскага ды ўзноў, робячы выгляд, што быццам курыць, адвярнуўся да танцораў.

На выгнутай шыі — аблічча. Яно застыгла. А цяпер пульсуе ў такт музыкі, перабірае нагамі. І сьпячае аблічча хістаецца. Як люнатык Марына йдзе па пакоі. Вось яна прыхілілася да свайго кавалера, адступіла, зноў прыхілілася. Аблічча хістаецца. Белае, срогае, быццам ад іншага тулава, яно ня прыймае ўдзелу ў навакольнай мітусьні. Пераплятаюцца ногі, сапе чарговы шчасьлівец, нецярпліва чакаюць на сваю хвіліну наступныя мужчыны. Але аблічча Марыны спакойнае, быццам яна адсутнічае, быццам ёй усяроўна, каму й калі папасьціся.

І гэтая мёртвая нярухомасьць ейнага твару, і гэтая доўгая чарга да ахвяры, што ўпала ў бяспамятнасьць, выклікаюць ўжо не зайздрасьць, а жах — перад насільлем, што адбываецца ў ягоным доме, ува ўсіх на вачох, пад музыку. Каб як-небудзь спыніць іх — іх, што страцілі сорам і людзкое сумленьне, — пракурор падыходзіць да зыйшоўшага ўрэшце патэфону й быццам-бы выпадкова спатыкнуўшыся, ськідае яго на падлогу.

☆

Юры ня мог заснуць. Апошнім часам начамі зь ім здаралася такое: раптам ён успамінаў, што павінен памерці, і пачынаў баяцца. Асабліва часта гэта здаралася, калі ён ляжаў на сьпіне.

Жыцьцю ягонаму не пагражала небясьпека, і можна было спадзявацца, што ён пражыве яшчэ гадоў з дваццаць пяць, а магчыма й усе трыццаць пяць, калі будзе сьцерагчы сваё здароўе й пакіне курыць. Аднак-жа самая думка аб тым, што праз дваццаць пяць ці навет праз сорак гадоў яму давядзецца памерці, была нясьцерпнай. Вельмі-ж ужо страшна, калі цябе няма, а іншыя яшчэ існуюць.

Дамавіна й магіла яго не палохалі. Галоўнае — што нічога ня будзе пасьля сьмерці, нічога й ніколі, на векі вечныя. Калі-б паслалі ў пекла, дык і то лепш: хай сабе падпякаюць на патэльні — усё-ж нейкая сьведамасьць застаецца.

Ён успомніў, як у дзяцінстве зайздросьціў сланём, якія жывуць 150 гадоў. А шчупакі, кажуць, 200. А як памёр бацька — Юры ўпаў у гістэрыю, і ўсе думалі, што яму шкада беднага таты, а ён якраз сябе шкадаваў, дадумоўваючыся аб сваёй сьмерці, а пасьля доўга распытваўся ўва ўсіх пра пасьмертнае жыцьцё ў той надзеі, што яно ўсё-ж існуе.

Чаму яны адабралі веру? Асабістую бесьсьмяротнасьць замянілі камунізмам! Ці-ж можа быць нейкая мэта ў чалавека, які развагае, апрача тае, што адносіцца да яго самога?

Адчуваючы, што ён памірае і вось-вось зусім зьнікне, Юры сеў на ложак і запаліў лямпу. Ён кашлянуў і падумаў, што тады й кашляць ужо не давядзецца. Пасьля вільготнымі пальцамі дакрануўся крэсла, якое застанецца (і ножкі крэсла застануцца!), у той час, як Юрага ўжо ня будзе.

Расказаць аб гэтай бядзе — няма каму. Кажны пачне сьмяяцца зь цябе, аб сабе думаць: «Я-ж таксама памру». Спачуваньня тут не дачакаешся.

Быў толькі адзін выхад — самаабман. Да яго йдуць людзі, што адцягваюць сябе, чым толькі можна ад гэтай пусьціні, якая можа давесьці да вар'яцтва. Некаторыя занятыя палітыкай, як мядзьведзь Глобаў, некаторыя, як Марына... Марына! Вось дзе трэба шукаць збаўленьня! У гэтай жанчыне, найпрыгажэйшай з усіх жанчынаў, якіх ён ведаў.

Юры прыўстаў, вынуў цыгарэты й закурыў, каб лепш схапіць паўстаючую навагу. І, выпускаючы дым з роту, ён адчуваў, што жыве й курыць, як належыцца, і зацягваецца пазапраўднаму, і выпускае дым з роту, чаго мёртвыя ня могуць. І, радуючыся з гэтага, выпускаў з роту дым, і курыў, і зноў радаваўся.

Марына й запраўды была дастойным заняткам. Ён сам, задоўга да гэтае начы, інтуіцыйна, як конь у часе навальніцы, выбраў правільны шлях. Ён абвесьціў сябе сяродкам, усяго толькі сяродкам ейнае прыгожасьці. Ён захапляўся й патакваў, жадаў і паднявольнічваў. І ня раз быў уніжаны й кінуты, як сяго-ньня — у часе танцаў. Але Юры мог, палажыўшы руку на сэрцы, сказаць, што зрабіў адкрыцьцё магчыма, большае за Архімэдава.

Хай пунктам апоры паслужыць яму Марына! Гэтая недаткнёная, уявіўшая сябе мэтай сусьвету, станецца сяродкам ад бяссоньніцы. А мэтай, мэтай будзе ён сам і ягоная перамога над ёю. Ён пераможа Марыну той-жа зброяй, ужыве любыя сяродкі, каб давесьці сваю перавагу.

— Божа, які ўніжальны будзе ваш упадак! Я ўжо пастараюся, паверце маёй сьціплай практыцы!

Юры скруціўся абаранкам і, прадчуваючы, што салодка засьне, усьміхнуўся. Яму здавалася, што ён будзе жыць доўга-доўга, што ён усіх пераражыве, навет ніколі не памрэ. Аднак лямпы ён ўсё-ж не гасіў.

(Далей будзе)

# ТАМ, ДЗЕ ВІЦЬБА ЎЦЯКАЕ Ў ДЗЬВІНУ

(Заканчэньне з 4-ай бач.)

настайным адпоры зусім зьнішчылі войска Дубіны, а яго самога разам зь ягонымі бліжэйшымі сябрамі пасадзілі на сваіх Заручайскіх Валатоўках на калы. І хіба можа гэтага хопіць, каб давесьці, якое права мае духовы спадкаемца Дубіны — Хмяльніцкі — на помнік сабе ў сучасным Віцебску.

Адсюль з далёкае чужыны ня відаць, ці ёсьць які надпіс на пастмэньце помніка Багдану Хмяльніцкаму ў Віцебску. А калі толькі няма, дык найлепшым будзе палкі зварот да яго самое Украіны праз вусны свайго прарока Тараса Шаўчэнкі:

«О, Багдане,
Неразумны сыну,
Паглядзі цяпер на матку,
На сваю Ўкраіну».
«Ой, Багдане, Багданочку!
Каб ведала, каб знала
У калысцы-б задушыла,
Пад сэрцам прыспала!»

А да тых бэсэсэраўскіх калябарантаў, што дапамагалі расейскім акупантам ставіць у Віцебску гэты помнік, цалкам надаюцца словы з таго-ж самага твору «Раскапаная магіла», але ў дачыненьні да Беларусі:

«А тымчасам адшчапенцы
Няхай падрастаюць
Ды пасобяць маскалям
Гаспадараваць,
Ды з маткі латаную
Кашулю зьдзіраць!
Падсабляйце ім, нялюдкі,
Матку катаваць!»

Калісьці яшчэ ў губэрнскім Віцебску ягоная Ахвіцэрская вуліца з прычыны стагодзьдзя ад дня сьмерці расейскага генэралісімуса Суворава была перайменаваная ў Сувораўскую. У савецкім Віцебску яна сталася Валадарскай, у гонар камісара Валадарскага, забітага ў 1918 г. Аднак пасьля вайны, за часы якое Сталін надаў сабе годнасьць генэралісімуса і ўзнагародзіў сябе-ж ордэнам Суворава першае ступені, вуліцы, адсунуўшы ў бок Валадарскага (бо ён-жа хоць і камісар, але Масей Гальдштэйн), зьвярнулі ранейшы губэрнскі назоў і ў дадатак паставілі на ёй помнік Суворову.

Расейцам незалежна ад іхняга колеру — як белым, гэтак і чырвоным — ёсьць за што ўшаноўваць Суворава, які шмат прычыніўся да ўзмацненьня Расейскае імпэрыі. Але ў Беларусаў, як і ў іншых вязьняў «Турмы Народаў», імя гэтага расейскага нацыянальнага гэроя ня выклікае нічога акрамя агіды. І перадусім тут хочацца прывесьці адну гістарычную паралелю.

У кастрычніку 1956 г. танкі савецкага маршала Жукава бязьлітасна ў вагні, крыві і сьлязох раздушылі паўстаньне вольналюбнага вугорскага народу супраць захопніцкае Масквы. За часы самога паўстаньня Расейцы забілі 25 тыс. чалавек, пасьля яго расстралялі 2 з паловай тысячы і ўвязьнілі ў канцлягерах 50 тыс., а 200 тыс. Мадзяраў уцяклі з свае роднае краіны й сталіся палітычнымі эмігрантамі.

У лістападзе 1794 г. «цуда-волаты» царскага генэралісімуса Суворава канчаткова раздушылі паўстаньне польскага народу супраць тае-ж драпежнае Расеі. 4 лістапада толькі на вуліцах варшаўскага прадмесьця Прагі загінула 20 тыс. людзей, прычым, акрамя дарослых, паміж імі былі старыя й хворыя, жанчыны й дзеці. Сьветка гэтае праскае разаніны Немец Фр. Нуфэр апавядаў: «Сувораў дазволіў сваім жаўнерам тры дні «пагуляць». Расейцы літаральна купаліся ў крыві жыхароў, забіваючы ўсякага, каго толькі бачылі. Целы замардаваных былі голыя; тут і там дрыжалі пад імі яшчэ жывая рука або выцягнутая агалёная нага».

Вестка аб праскай разаніне, хоць ня было тады ні радыя й ні тэлеграфу, з хуткасьцю маланкі, абегла цэлы сьвет, выклікаючы пачуцьцё абурэньня ўва ўсіх цывілізаваных народаў. Але для Суворава яна не зьяўлялася выпадковай. За чатыры гады перад тым ён тое-ж учыніў у захопленым ім горадзе Ізмаіле ў Бэсарабіі. Як вылучны мардэрца, ён уславіўся таксама ў Італіі пад Трэбіяй. І трапна зазначыў вялікі ангельскі паэта Байран, што сам загінуў у змаганьні за незалежнасьць грэцкага народу: «Сувораў любіць кроў, як ангельскі гарадзкі дараднік шпік».

Аднак можа ніхто лепш не ахарактарызаваў Суворава, як Француз па нацыянальнасьці, прыдворны гісторык Кацярыны Другое С. Массон, які пісаў: «Сувораў зь ягонымі асабістымі дзівосамі застаўся-б у памяці нашчадкаў толькі як сьмешны блазен, каб не зьўляўся адначасна найбольш барбарскім заваёўнікам. Гэта ёсьць пачвара, якая ў целе малпы хавае душу шалёнага сабакі. Атыла — ягоны духовы суродзіч, ня быў гэткім дзікім. Дзікасьць Суворава натуральная і кроў ён пралівае інстынктыўна».

У ваднэй з савецкіх кніжкаў мне давялося бачыць здымак з сучаснага помніка Суворава ў Віцебску. Але нажаль пад бюстам няма яскравага масонаўскага тлумачэньня:

«У целе малпы хавае душу шалёнага сабакі».

Бязьлітасна разбураныя старыя нацыянальныя помнікі і на іхніх крушнях пабудаваныя адвечным прыгнятальнікам нашага народу Масквой новыя помнікі для яго чужыя, яму накінутыя. Варта з гэтае прычыны і сумаваць і абурацца, але разам з тым ніколі не сумлявацца ў вылучнай жыцьцяздатнасьці і ў канчатковай перамозе свайго роднага народу. Надысь мне давялося пераканацца ў гэтым яшчэ раз, калі ў нарысе сучаснага пісьменьніка Канстантына Паўстоўскага «Вецер хуткасьці» прачытаў:

«Мы прыехалі ў Віцебск змрокам. Сонца дагарала за Дзьвіной. У вастатнім ягоным агні ўзгоркаваты горад здаўся вельмі маляўнічым.

У памяці засталіся яры сярод гораду, каменныя масты над імі, старадаўнія камяніцы былых каталіцкіх і вуніяцкіх сэмінарыяў, калянады новых дамоў і асьляпляльныя агні. Нідзе я ня бачыў гэткіх яскравых і напружаных агнёў, як у Віцебску.

Але асабліва прыгожы Віцебск у часы вячэрняга ажыўленьня сваіх вузкіх і ўтульных вуліцаў. У горадзе злучыліся рысы захаду й поўдня».

Адылі-ж і вячэрняе ажыўленьне пасьля дзённае рабскае працы, як і злучэньне рысаў захаду й поўдня гэта-ж і ёсьць апрычоная і несьмяротная Беларусь.

**Юрка Віцьбіч**

# АПАДКІ

(Працяг зь 5-ае бачыны)

небудзь мовы я ня ведаю, а бяз мовы чалавек ёсьць нішто. Ці ня ёсьць гэта які-небудзь з ухілаў, перагіб, за які якраз і ськіроўваюць туды, дзе Макар цялят ня пасьвіў?!

Гэтае апошняе я вымавіў таму, каб, у сваю чаргу, узяць «енерала» «на цугундар», і я не памыліўся: было відаць, як карак «енерала» налівайся хварбай і ўся ягоная постаць напружвалася, быццам ён рыхтаваўся выскачыць із самога сябе.

— Ну, добра, добра, палітыкан! Але хто вам дазволіў лавіць тут рыбу?

— Ніякіх дазволаў ні ад каго не патрабуецца, — адказаў я. — Вы савецкі грамадзянін і я савецкі грамадзянін — мы карыстаемся аднолькавымі правамі, на якой падставе вы хочаце забараніць мне лавіць тут рыбу?

— Я гэтыя віры агледзіў, падсыпаў тут прынаду...

— Вы толькі раз, а я сотні разоў на працягу дзесяці гадоў...

— Я тут зь дзяцінства, — я нарадзіўся ў гэтай вёсцы.

— Ага, дык вы Беларус? Але вы выракліся свайго народу, як той Балеслаў кажа — ападкам сталі, з чырвяточынкай...

Жыла на карку генэрала ўзьдзьмулася, і ён амаль выкрыкнуў:

— Я не дазваляю вам зь мяне зьдзеквацца...

— Вы самі зь сябе зьдзекваецеся...

— Я вас арыштоўваю на той падставе, што вы нарушылі закон аб пагранічнай зоне, — гэтая мясцовасьць уваходзіць у пагранічную паласу.

І ён паклаў руку на кабуру. Гэта было зь ягонага боку зусім неразумна, тым ня менш я мусіў падпарадкавацца: у пэўны мамэнт ён можа не апанаваць сабой. Потым ён можа нахлусіць: «паказаўся падазроным... уцякаў... супраціўляўся». Урэшце, гутарка ідзе толькі пра тое, што я перапыню такі цікавы занятак, як рыбны лоў. Страта не вялікая.

— Хадзем! — сказаў я, згортваючы вудачкі.

Выбраўшыся з багнаў, мы накіраваліся ні куды-небудзь, а да хаты Балеслава.

— Балеслаў, — паклікаў генэрал. — Адчыні сваю аборыну, трэба замкнуць гэтага чалавека, пакуль прыедуць з пагранахоўы...

Балеслаў аж затросься ад сьмеху й энэргічна сморгнуў рукою па нагавіцы.

— Гэта твае ваенныя перамогі — забраць у палон узброенага вудай рыбака?! Хі-га! І за гэтакія чыны ты, пэўна, начапіў і мэдалікі сабе на грудзі?! Ото-ж ужо, ад вялікага розуму, зглузду зьехаў, брацец! Ты цяперака во які карак маеш! А ці ты не памятаеш, як пад дзюравай сьвіткай абодвы корчыліся: я да сябе, ты голы, ты да сябе, я голы. А ў гэтага чалавека, можа, таксама дзеці. Ды на карткі ня дужа разгонішся — мерзлая бульба ды аўсянка. Вось яны і чакаюць: «татка рыбы прынясе». А ты, брацец, і не падумаў пра гэта — табе гэта ні па-што? І сорамна мне за цябе перад усім сьветам! Што-ж ён зрабіў гэтакага благога, што ты яго заарыштоўваеш?

Балеслаў выгаварыў генэралу так абгрунтавана й без запінкі, быццам рыхтаваўся да гэтага месяцамі.

Заканчэньне на 7-ай бач.)

# Дьзвесьце беларускіх народных песень...

(Заканчэньне з 3-яе бачыны)

крытык Мухарыская, аднак, не разглядае самабытнасьці ягонага паходжаньня й адрозьненасьці рысаў, але, усьлед за рэдакцыяй, стараецца пераканаць нас у выразнай сувязі беларускага эпасу з расейскім былявым (былінным) стылем, у ўплыве тут расейскай былiннай традыцыі (?).

Разгляд музычнай мовы гэтых пазьнейшых запісаў (як, нажаль, і шматлікіх іншых, што зьмешчаны ў зборніку) сьветчыць аб тым, што ўсе яны амаль што страцілі рысы беларускасьці: лякань нічнасьць, прастату, высокую мастацкасьць сяродкаў і прыёмаў традыцыйнага пабудаваньня. Крытык Мухарынская ня можа ня прызнацца пры гэтым, што ў радзе запісаў... «некаторы ўплыў гарадзкога быту», а, прыкладам, песьня № 86 — гэта нічога іншага, як «гарадзкая песьня-раманс». Аднак заместа таго, каб скрытыкаваць уключаньне такіх сурагатаў у беларускую народную творчасьць, тая-ж Мухарынская змушана, супраць свайго сумленьня й згодна зь існуючай «тэорыяй» агульнасьці й гібрыдызацыі, дэзарыентаваць чытача, пераконваць яго, што гэткія нявыразныя й бязтварныя песьні зборніка, як савецкая «Каліна-маліна» (№ 185 не мяшаць яе зь вядомай беларускай песьняй таго-ж назову) і «Ой, калінушка, ой малінушка» (№ 124) зьяўляюцца аднымі з найлепшых беларускіх прыкладаў, што быццам «задаюць у сэрца». Крытык навет робіць закіды Р, Шырму, што ў зборніку «занадта заўважна ў баку застаюцца мужчынскія харавыя песьні — казацкія, бурлацкія, зь іх размашыстасьцяй і сілай». Вось да чаго можа даходзіць услужлівасьць партыйнай лініі ў савецкіх умовах, калі трэба гаварыць на чорнае, што яно белае. Ведаючы гэта, мы не асабліва дзівімся й з таго, што самому аўтару зборніка даводзіцца шукаць песенныя прыклады пад густ партыйных кіраўнікоў. Р. Шырма, прыкладам, паводля словаў прадмовы, зьвяртае ўвагу на «мэлёдыі, што выгадныя для паліфанічнага выкарыстаньня», разам з крытыкам Мухарынскай бачыць асаблівую цікавасьць у «руплівай распрацоўцы... самастойных харавых партыяў» (як у песьні № 192). І ніводзін зь іх не адважыцца галасна сказаць, што гэтая паліфанічнасьць, кантрапунктычная падгалосачнасьць, якія складаюць характэрныя рысы ў расейскім народным шматгалосьсі, зьяўляюцца неўласьцівымі, чужымі, наноснымі для беларускага народнага шматгалосься, што йдзе зусім паводля іншага прынцыпу й іншым шляхам. Выходзіць так, што ў БССР сярод спэцыялістых няма каму бараніць асаблівацьцяў нацыянальнага стылю, змагацца за ягоную чысьціню.

У крытычным артыкуле Мухарынскай мы чытаем: «увага зьбіральніка накіравана на мэлёдыі ў дыяпазоне актавы, ноны й дэцымы». Зразумела й гэта цікава, але пры неабходнай умове ўбачыць і ў шырокіх мэлёдыях асновы традыцыйных песенных своеасаблівых прыёмаў, аднак галоўнае заданьне ў паказе клясычнай беларускай песеннай спадчыны — гэта даць найбольш тыповыя вузоры народнай творчасьці, чаго якраз мы мала сустракаем у Шырмавым зборніку. Значыцца «хтосьці» чужы займаецца «накіраваньнем» увагі зьбіральнікаў і крытыкаў, а гэтым апошнім даводзіцца прымусова йсьці па чужой дарозе й мімаволі займацца хвальшаваньнем беларускага мастацтва.

Паводля аўтарскае прадмовы можна бачыць, што Р. Шырма, укладаючы свой зборнік, ставіў сабе вельмі высокія й шляхотныя заданьні: а) «зьмясьціць традыцыйныя песьні, якія складаюць клясычную спадчыну беларускага народу», б) даць магчымасьць «прасьлядзіць гістарычнае разьвіцьцё беларускай песьні, працэс расшырэньня яе дыяпазону»; в) прывесьці сьветчаньні «аб старадаўнасьці напеваў гэтых песьняў». Мы ня маем права сумлявацца ў добрай волі заслужанага аўтара, але мы павінны былі давесьці да грамадзкасьці, што заданьні аўтара засталіся амаль што неразьвязаныя, бо яны трацілі ў супярэчнасьць з палітыкай партыі ў галіне мастацтва. Партыйна-савецкае кіраўніцтва змусіла Р. Шырму падпарадкавацца патрабаваньням з гары. Ці абвінавачваць тут аўтара ці не — пытаньне іншае. Дарэчы тут толькі заўважыць, што ў шэраг памылак, як, прыкладам, слухавы запіс ці блытана пададзеная мэтра-рытміка (не паводля страфічнай сыстэмы) не абавязкава трэба адносіць на рахунак аўтара.

Такім чынам «доўгачаканае», «першае савецкае выданьне» шматгадовае працы Р. Шырмы, што павяло лінію на засьмечваньне й хвальшаваньне клясычнай спадчыны беларускага народу, ня глядзячы на шчырыя імкненьні аўтара, яшчэ раз выразна паказала нам умовы савецкага рэжыму, праўдзівую істоту яго.

**Мікола Куліковіч**

Кружэлка была разьбіта й вечар папсаваны. Муж перайшоў межы ейнае церплівасьці. Як толькі разьвіталіся апошнія госьці, Марына абвесьціла вайну.

Уладзімер Пятровіч даволі ўдала адбіваў першыя ўдары, адзначыўшы, што салідная жанчына, танцуючы танго, не дазволіць Карлінскаму гладзіць сабе па плячох. Тады яна ўспомніла яму гіпсавы бюст і вульгарную мову за сталом, і сьледчага, зь якім ён шаптаўся амаль што ўвесь вечар, і, не чакаючы адказу, разьвязкі, павяла разгорнуты наступ.

Ейнае аблічча пылала ад гневу. Распаленае да Белага, яно было вастрыём гатовым упіцца, а цела, абцякальнае, як тарпэда — цалючы напэўна — нецерпліва ўздрыгвала.

Войстрыя меры не палохалі Марыну. Яна разумела, што на вайне спачуваньне таксама небясьпечнае, як здрада. Ёй здавалася бестактоўным кулі дум-дум і атручальныя газы лічыць нягуманнай зброяй. Марына была дастаткова разумнай, каб дадумоўвацца, як балюча ўміраць, будучы абпаленым звычайным тэрмітам.

— Ах, так? — сказала яна, пачуўшы нейкую рэзкасьць. — Ведай-жа — у нас дзіцяці ня будзе: я зрабіла аборт.

Гэта было падобна да выбуху атамнае бомбы: колькасьць ахвяраў і разбурэньняў у першы мамэнт вызначыць немагчыма. Усё сьцерта з аблічча зямлі, і змагацца больш няма з кім. Але дзесьці, на ўскраіне, хоць адзін чалавек, а захаваецца.

Ён устае й абтрасаецца, і круціць у пальцах чайную лыжачку, што заляцела яму ў рукаво зь вітрыны якогасьці таксама разбуранага ювелірнага магазыну. І бачыць, што апрача гэтае лыжачкі, нічога ў яго няма — ні дому, ні сям'і. Пасьля ўспамінае далей і бачыць, што доўгачаканая дачка загінула ў катастрофе і, скручваючы лыжачку ў задумлівы вузялок, заўважае яшчэ, што ён падвойна аганьбаваны — як муж і як пракурор. І не разумее, што рабіць яму з папсаванай лыжачкай, а таксама — пры чым-жа тут грамадзянін Рабіновіч, калі ягоная собская жонка... і кажа:

— Што ты нарабіла! Што ты нарабіла!
І каб не забіць, дае аплявуху.

Каб ён яе не забіў, Марына схавалася ў сваім пакою. Яна ня плакала. Седзячы перад люстрам, яна гладзіла пухоўкай абражаную шчаку й наводзіла перакрыўлены ад болю рот, што здаваўся ёй за вялікім для ейнага твару.

### РАЗЬДЗЕЛ III

«Спартак» атакаваў. Цэнтар нападу — заслужаны майстра спорту Скарлыгін — прабіваўся да варотаў праціўніка. Лік быў 0:0. Ува ўсіх заняло дух.

Тысячы глядачоў, у тым ліку пракурор Глобаў, упіўшыся вачыма ў цела славутага спартсмэна, аб'яднанымі намаганьнямі пхалі яго наперад. Але тысячы іншых воляў, што змагаліся на баку «Дынама», стваралі на шляху Скарлыгіна безьлічныя перашкоды, жадалі яму спатыкнуцца, паваліцца, зламаць шыю. І таму мяч, рынуты магутнай нагой, не ляцеў проста, як можна было чакаць, а кідаўся разгублена, блытаючыся ў буцах і выклікаючы замяшаньне сярод ігракоў.

Уладзімер Пятровіч з усіх сілаў стараўся дапамагчы «Спартаку». Напружваючы мускулы, ён бачыў, што абарона праціўніка пачынае слабець. Падвоіў націск — яна паддалася. І тады, стрымгалоў, ён ударыў, і яшчэ раз ударыў, і яшчэ, і яшчэ...

Цэнтар нападу Скарлыгіна падабраўся да варотаў «Дынама». Варатар Панамарэнка, паюнацку жвавы, прытанцоўваў ад нецерплівасьці, рыхтуючыся да скоку. А ззаду ўжо насядалі задыхаючыся абаронцы. — «Бі, Саша! Бі!» — стагнаў стадыён.

Панамарэнка пакаціўся клубком, прыціскаючы мячык да жывата. Скарлыгін таксама паваліўся, але адразу-ж падскочыў на ногі, падкінуты выцьцём натоўпу. Ён ужо ня мог спыніцца, таму што мэта, дзеля якое яму давялося столькі выцерпець, была побач, і тысячы людзей патрабавалі перамогі, а да канца ігры заставалася паўмінуты. Скарлыгін ударыў, і яшчэ раз ударыў, і яшчэ...

...Калі абвесьцілі нічыё, Уладзімер Пятровіч пакрыўдзіўся:

— Гнаць трэба судзьдзю. Непарадак — загнаны гол касаваць.

— А твайго Скарлыгіна — судзіць за грубае парушэньне правілаў, — падсьмейваўся сьледчы Скромных, вядомы сваімі сымпатыямі да «Дынама». — Ці-ж гэта дапушчальна? Жывот у чалавека — найбольш далікатнае месца. Звычайным кулаком забіць можна.

— Але мячык усё-ж такі ў варотах!? Так ці не?

Абедзьве каманды ўжо зыходзілі з пляцу — запыленыя, цяжка дыхаючы, пад гукі спартовага маршу. Плёўся маленькі Панамарэнка, сагнуўшыся ў тры пагібелі. Кульгаў волат Скарлыгін. Яму сьвісталі, галёкалі з усіх трыбунаў стадыёну. І ён яшчэ жаласьней валачыў здаровую нагу, каб чымсьці апраўдаць сваю прайграную перамогу.

— А я разумею Скарлыгіна, — разважаў Уладзімер Пятровіч, чакаючы покуль схлыне народ. — У гарачцы не разьбіраеш. Б'еш і ўсё тут. Калі вароты тут-жа — міндальнічаць ня будзеш. Усе спосабы дапускальныя...

І ён пачаў праводзіць нейкія аналёгіі, закрануў палітыку й яшчэ штосьці. Аркадзь Гаўрылыч кепска яго слухаў.

— Антысэмітызм у імя інтэрнацыяналізму, ці інтэрнацыяналізм у імя антысэмітызму? — перапытаў ён, выразна не арыентуючыся аб чым ідзе гутарка.

Глобаў пачаў высьвятляць, але той перабіў з паўслова. Відаць, ніяк не жадаў уступіць пяршынства «Спартаку»:

— Усё гэта праўда... Аднак-жа футбол — не палітыка. І наагул, ведаеш, ня люблю я ў высокія матэрыі забірацца. Гэта ўжо твая пракурорская справа тэорыі падводзіць. А я — практык. Раскажы мне лепш гісторыю з тваім Рабіновічам.

**(Далей будзе.)**

# Зь беларускага жыцьця

## Магістар Уладзімер Бакуновіч

14 ліпеня сёлета сп. Уладзімер Бакуновіч, пасьля абароны магістарскай дысэртацыі («Разьвіцьцё беларускае эканомікі пасьля 2-ое сусьветнае вайны 1945-58») і канчатковых экзамінаў, закончыў Лювэнскі Унівэрсытэт з тытулам магістра камэрсыяльных і кансулярных навук (факультэт эканамічных і палітычных навук).

Сп. Ул. Бакуновіч прыбыў на Лювэнскі Унівэрсытэт у 1954 годзе з Аўстраліі, дзе жывуць ягоныя бацькі. Ня так, як іншыя з нашай моладзі, асабліва з Канады і ЗША, што маюць нейкі нявыясьняльны страх перад Эўропай, сп. Ул. Бакуновіч прыклаў усе стараньні, каб прыбыць у Лювэн на студыі.

Сяньня мгр. Ул. Бакуновіч, закончыўшы студыі, із зразумелым жалем выказаў нам сваю думку, што запраўды шкада, калі ня ўся беларуская моладзь разумее патрэбу здабыцьця вышэйшае асьветы, тым больш, што для гэтага існуюць такія ідэяльныя магчымасьці ў Лювэне.

Новаму магістру — сп. Уладзімеру Бакуновічу — жадаем шмат удачаў як у асабістым, так і ў грамадзкім жыцьці. Гэтым самым шляхам віншуем таксама і бацькоў новага магістра — сп-тва Бакуновічаў — у Аўстраліі. **Рэдакцыя**

## У Ню Ерку

Хоць сёлета, кажуць, летні сэзон халаднейшы за ўсе дваццаць папярэдніх, духаты й поту стае на тых, хто хоча або мусіць кратацца вакол работы. Аднак, каб тут раптам і зусім захаладала, дык грамадзкае жыцьцё ад гэтага не падбадзёрылася-б — таксама, як і не замірае яно цалком ад найвільгатнейшае гарачыні. Проста, яно ўваходзіць у свой летні тэмп і дыбае ім да першых сьвежых подыхаў восені.

☆

Ліпень пачаўся пікнікамі. Дзень амэрыканскае Незалежнасьці (4 ліпеня) прыпаў сёлета на панядзелак. Трохдзённыя канцоўкі тыдняў даспадобы кажнаму, і кажны стараецца выкарыстаць час нагэтулькі, наколькі дазваляе пагода.

Царкоўная рада прыходу БАПЦ Ню Брансьвіку-Саўт Рывэр наладзіла на гэты час традыцыйную сустрэчу ў Гэлмэце, штат Нью-Джэрзы. Пікнікі гэтыя маюць характар свайго роду беспраграмнай сустрэчы Беларусаў Нью Ёрку й далейшых ваколіцаў з эвэнтуальным дадаткам да кілішка й закускі невялікае лятарэі, танцавальнае музыкі й нефармальнага абладжваньня арганізацыйных справаў. Пагода ня была «на заказ», але ўсё-ж сустрэча прайшла прыемна ды — трэба спадзявацца — хоць крыху з прыбыткам.

✶

Моладзь выкарыстала трохднёўку паўней: наездам на «беларускі хутар» сп. Атаназага Бобрыка, што ляжыць нейкіх 170 кілямэтраў на поўнач ад гарачага Нью Ёрку. Зьехалася каля 60 асобаў — на вольныя гульні, вогнішча, на сырадой і кіслае малако. Лавілі рыбу, купаліся, загаралі, стралялі з лука, уздымалі ігры. Слухалі, як Аўген Лысюк і Ю. Касьцюкевіч гралі на губных гармоніках, скакалі пад фартап'янную музыку Герды Кабушкі й Юркі Стагановіча. Аматары сьвежага паветра хадзілі спаць на сена.

Арганізаваў наезд ньюёрскі аддзел ЗБМА (павадыр Васіль Мельяновіч). А некаторыя проста ўзялі ды прыехалі так.

☆

. . . Ёсьць грамадзкая праца, што «аплачваецца» хоць «абсалютарыюмам» або надрукаваным на блянцы арганізацыі ці ў газэце собскім прозьвішчам. Але якія горы яе пераварочваецца ні без таго, ні бяз другога! Ды вось даў-жа Бог нам ахвотнікаў і да гэткае работы. На мінулым тыдні давялося іх бачыць: з закасанымі рукавамі, спацелыя, у цымэньце, у вапне, у пыле (але-ж! людзі й гэтак умеюць, вярнуўшыся з работы, свой вольны час праганяць!). І ў задусе рамантаванага грамадзкага будынку можна было ўявіць сабе гугнавыя галасы тых крытыкаў, што адлежваюцца цяпер у цяньку, не паказуючы нікуды носа, а ўвосень ці ўзімку, у вабсталяваным летняю працай будынку, зьявяцца із сваёй прэтэньзіяй на непарадкі ды з сваім трухлявым патрыятызмам.

**Я. Запруднік**

### КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**(Заканчэньне зь 7-ай бач.)**

акцэнт у часапісе пакладзены на рэлігійнае мінулае Беларусі з намаганьнем давесьці, што вуніяцтва — гэта нацыянальная форма беларускае рэлігіі. У гэтым нумары зьмест наступны: «Бульля Папы Клімэнта VIII аб Берасьцейскай царкоўнай вуніі з 23. XII. 1595»; М. Валаціч: «Беларускі нацыянальны царкоўны крыж»; В. Пануцэвіч: «Літоўская мітраполія пры Альгердзе і заўзятая царкоўная барацьба з Маскоўшчынай за тытул мітрапаліта»; В. Пануцэвіч: «Хто займаў духоўныя становішчы ў гістарычнай Ліцьве, Ліцьвіны ці Палякі»; Я. Чарнэцкі: «Родная мова ў сьвятынях на Бацькаўшчыне і на эміграцыі»; «Наша хроніка».

**Я. Запруднік**

### КАНЦЭРТЫ НАДЗЕІ ГРАДЭ У ЧЫКАСКІХ ПАРКАХ

Ужо чатыры гады ў летнія сэзоны наша знаная сьпявачка Надзея Градэ запрашаецца для выступленьняў із сваімі канцэртамі (гадзінная праграма) ў парках Чыкаго.

Сёлета сп. Надзею Градэ запрасілі аж два чыкаскія паркі. Канцэрты адбудуцца 16 жнівеня (аўторак) уHumboldt Park і 24 жнівеня (серада) ў Austin Town Hall. Пачатак канцэртаў а 8-ай гадзіне ўвечары. Пры фартапіяне праф. М. Куліковіч.



**МІТРАФОРНЫ ПРАТАЕРЭЙ АЙЦЕЦ ХВЕДАР ДАНІЛЮК**

Епархіяльная Управа Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы й Канадзе зь вялікім сумам паведамляе ўсе нашае ўсечэснае Духавенства, пабожных вернікаў і ўсё беларускае грамадзтва, што дня 29-га ліпеня 1960 году аддаў душу сваю Богу верны слуга Ягоны Мітрафорны Пратаерэй Айцец ХВЕДАР ДАНІЛЮК.

Урачыстая Заўпакойная Служба Вожая, і чын Іерэйскіх паховінаў адбыліся ў Нядзелю, 31-га ліпеня, у Катэдральным Саборы сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Ню-Ёрку й на беларускім могільніку каля Ню Брансьвіку.

Епархіяльная Ўправа гэтым выказвае сваё гарачае спачуваньне асірацелай Матушцы Марыі, сыну Барысу й нявестцы зь дзеткамі, а таксама страціўшым свайго духоўнага Айца-Настаяцеля прыхажанам.

Вечная Памяць незабыўнаму Мітрафорнаму Пратаерэю Айцу ХВЕДАРУ!

**Ад імя Епархіяльнае Ўправы**
**Архіяпіскап Васіль**

**Нязьмерна балюча ўдарыла мяне сумная вестка аб неспадзяванай, раптоўнай сьмерці намі ўсімі любімага й дарагога айца, пратаярэя Хведара Данілюка, настаяцеля беларускага праваслаўнага Сабору ў Нью Ёрку.**

**Сям'і пакойнага, высока дастойнай матушцы, сыну, нявестцы й унукам ды ўсім прыхажанам выказваю свае найглыбейшыя спачуваньні.**

**М. Абрамчык**
**Прэзыдэнт Рады БНР**

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ**
**РАДЫ БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ**

выказваюць жаль з прычыны неспадзяванае сьмерці

**Сьв. Памяці Мітрафорнага Пратаерэя**

**а. ХВЕДАРА ДАНІЛЮКА**

**Сябры Рады БНР, Слуцкага Паўстанца, няўтомнага будаўніка Беларускае-Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы,** які памёр у Ню-Ёрку 29-га ліпеня 1960 году на 74 годзе жыцьця й 40 годзе сьвятарства, і шчыра спачуваюць асірацелай сям'і Нябожчыка.

**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі**
**Прэзыдыюм і Сакратарыят**

## Сьв. пам. а. Хведар Данілюк

Царкоўная Рада Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку з глыбокім жалем паведамляе, што дня 29-га ліпеня 1960 году супачыў у Богу на 74-ым годзе жыцьця й на 40-ым годзе свайго Парстыскага служэньня Настаяцель Катэдральнага Сабору й нашага Прыходу сьв. пам. Мітрафорны Пратаерэй Айцец ХВЕДАР ДАНІЛЮК.

Пакойны Айцец Хведар нарадзіўся 12-га жніўня 1887 году ў вёсцы Сурынкі, Слонімскага павету. У часе першае сусьветнае вайны пакойны быў ахвіцэрам у царскай арміі, а ў часе Слуцкага Паўстаньня дзейным удзельнікам яго. Духоўную асьвету здабыў у багаслоўскай школе пры Жыровіцкім манастыры. У сан сьвяшчэньніка быў рукапаложаны ў 1921 г. Гарадзенскім Япіскапам Уладзімірам, стаўшы ўжо адданым воінам Хрыстовым.

І такім палымяным воінам Хрыстовым пакойны Айцец Хведар застаўся да апошніх дзён свайго зямнога жыцьця, заўсёды памятуючы словы Сына Божага пра Добрага Пастыра. Будучы верным сынам свайго народу, а. Хведар самаахвярна змагаўся ў часе Слуцкага Паўстаньня за свабоду Беларусі, а стаўшы верным слугою Божым, ён таксама самаахвярна змагаўся за нашую духовую свабоду: за нашую родную сьв. Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, быў адным з слаўных будаўнікоў яе.

Увесь урачысты Чын Паховінаў адправіў Высокапрэасьвяшчэньнейшы Архіяпіскап Васіль ў асысьце духавенства, і сказаў таксама разьвітальнае слова, у якім прыгожа й натхнёна прадставіў пакойнага Айца Хведара як палымянага слугу Божага й вернага сына Беларускага Народу, змагара й патрыёта. Таксама горача й зь любоўю разьвіталіся з пакойным Айцом Хведарам шматлікія прадстаўнікі ўсіх нашых дзяржаўных, грамадзкіх і культурных установаў і арганізацыяў. Хорам увесь час кіраваў наш выдатны рэгент сп. К. Кіслы.

Гроб пакойнага Айца Хведара быў пакрыты нашым нацыянальным сьцягам. Любоў і пашана да пакойнага Айца Хведара былі прычынаю таго, што на паховінах было некалькі сотняў прыхажанаў сьв. БАПЦарквы ня толькі зь Ню-Ёрку й ваколіцаў, але таксама й зь Ню Брансьвіку, Саўт Рывэру й ваколіцаў. Паховіны Айца Хведара ўшанавалі таксама Беларусы іншых веравызнаньняў.

Паховіны адбыліся ў нядзелю, 31-га ліпеня, на беларускім могільніку каля Ню Брансьвіку. Пасьля паховінаў адбылася жалобная трапеза, на якой было звыш дзьвёх сотняў прысутных.

Пакойны Мітрафорны Пратаерэй Айцец Хведар асіраціў Матушку Марыю, сына Барыса з жонкаю Марыяй і дзеткамі, унукамі пакойнага, якім мы выказваем нашае шчырае спачуваньне.

Няхай зямелька Вашынгтона будзе сьв. пам. Айцу ХВЕДАРУ пухам!

**Царкоўная Рада**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**



# Зь беларускай песеннай скарбніцы

## Антон казу вядзе

Жартоўна-гульнёвая беларуская народная песьня. Захавалася яшчэ з часоў дзейнасьці на Беларусі школьных («вяртэпных») драмаў і народных інтэрмэдыяў да іх (16—17 ст.).




1. Антон казу вядзе,
   Антоніха паганяе,
   Антоніха падганяе,
   На табаку зарабляе.
2. Антон на табаку,
   Яго лаюць, як сабаку,
   Антоніха на муку,
   Яе лаюць, як суку.
3. Антон казу вядзе,
   Тыц-мыц, каза ня йдзе,
   Антон з-заду падпіхае,
   Каза хвост падымае.
4. Антон яе ножкамі,
   Каза-ж яго рожкамі,
   Пайшла каза скачучы,
   Антон за ей плачучы.
5. Антон казу вядзе,
   Тпрусь-нусь каза ня йдзе,
   Антоніха падпіхае,
   На табаку зарабляе.
6. Не папала па казе,
   Па Антонавай назе,
   Антон бедны плача,
   Антоніха скача, скача, ой.

**Заўвага:** Арыгінальная народная мэлёдыя знаходзіцца ў першых двух тактах у сярэднім голасе, у двух апошніх — у верхнім голасе.

## Пад Воршаю

Гістарычная беларуская народная песьня. Тэкст дайшоў да нас ад часу бойкі з Масквою у 16 ст.




1. А ў нядзельку па-раненька,
   Ўзыйшло сонейка хмарненька,
   Ўзыйшло сонейка над борам, (2 разы)
   Па-над Сялецкім таборам.
2. А ў таборы трубы граюць,
   Ўсіх ваякаў зазываюць.
   Сталі рады адбываці, (2 разы)
   Адкуль Воршы здабываці.
3. Зь сяміпалых ад запалаў,
   Б'юць паўсоткаю з гарматаў,
   Масква стала наракаці, (2 разы)
   Места Воршу пакідаці.
4. А як з Воршы уцякалі,
   Тую рэчку праклінaлі;
   Бадай ты павысыхала, (2 разы)
   Наша слава тут прапала.

**Заўвага:** Арыгінальная мэлёдыя ідзе ў першым такце ў ніжнім голасе, а далей да канца — ў верхнім голасе.

## Ад'езд у Канаду

У чэрвені сёлета з усёю сям'ёю выехаў настала з Францыі сп. Юрлевіч. Ён выбраў Канаду за чарговую краіну пасяленьня, у надзеі наладзіць там на лепшых эканамічных умовах сваю будучыню. Сп. Юрлевіча ўсе Беларусы Парыжу вельмі любілі за ягоны вясёлы характар, адданасьць беларускай справе й ягоную ахвярную бязінтэрэсоўную працу й дапамогу, якой ён абдзяляў усіх тых, хто да яго зьвяртаўся. Гэта быў адданы працаўнік той «талакі», якой Беларусы Францыі будуюць свае дамы. Часта ён гаварыў: «Дайце Беларусам магчымасьці, дык яны ўсю Эўропу адбудуюць . . .»

Ізь сьлязамі й сумам у сэрцы разьвітаўся сп. Юрлевіч з прысутнымі сябрамі на станцыі Парыжу. Ён ня ведаў, што яго чакае ў новай краіне, але мы ўпэўнены, што там ён хутка здабудзе сабе новых сяброў і прыяцеляў.

Аўтар гэтых радкоў ад свайго асабістага імя ды ад імя Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі жадае яму й ягонай сям'і шмат здароўя й шчасьця ў Новым Сьвеце, а ўсіх Беларусаў Канады просіць прыйсьці яму з дапамогай у ягоных новых пачынах, бо ў асобе сп. Юрлевіча яны здабылі сабе прыемнага сымпатычнага сябру й ахвярнага Беларуса.

**М. Наумовіч**





Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ